

CD СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

"Маё цела сыграла са мной злы жарт" - гэта калі аднойчы ўстаеш з ложку, падыходзіш да люстра і замест сябе бачыш недарэчнасьць. Сіnякі пад вачыма, чырвоныя вочы і агульная пакамечанасьць ніяк ня ўказваюць на тое, што ў цябе толькі-толькі скончылася другая дзесяцігодка жыцьця. "Гэта ня я, гэта не маё цела і я яго баюся" ў такім выпадку гучыць досыць аб'ектыўна, але малааптымістычна. Уласнае цела трэба не баяцца, а вывучаць (у складаных жыцьцёвых сытуацыях яно можа нават дапамагчы) і песьціць. Калі-небудзь у знак удзячнасьці яно перастане выкідаць раншнія фокусы.

"Маё цела сыграла са мной злы жарт" - гэта калі аднойчы ўстаеш з ложку, падыходзіш да люстра і замест сябе бачыш недарэчнасьць. Убоства тканкава-мускульных канструкцыяў, іх відавочная недасканаласьць, наагул нейкае "неда"- камень хутчэй ва ўласны агарод. На такое можна параіць адно што пастарацца навучыцца зьбіраць каменьне. А вось "ненавіджу сябе "такое", прыбярыце яго адсюль" - больш глябальная заява. Усе ж мы створаныя па вобразе і падабенстве...

Яго можна ўспрымаць і як (не-да-)рэчнасьць - цела ўвогуле бывае розным. Каб гэта зразумець, трэба паглядзець у люстра наступным разам - сюрпрыз забясьпечаны.

## знойдзеш нас у гэтых месцах

- крама **"TOM TAILOR"** (Менск, пр. Скарыны, 37)
- крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48)
- крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43)
- крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14)
- крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44)
- крама **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12)
- ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама "FUJIfilm")
- аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 1-6)
- крама **"ПЕРЕХОД"** (падземны пераход каля ГУМа)
- крама **"КОМПЬЮТЕРНЫЙ МИР"** (вул. К.Чорнага, 31)
- інтэрнэт-клюб **"iPOINT"** (вул. Румянцава, 15)
- інтэрнэт-цэнтар **"Плошч@дка"** (пр. Скарыны, 58-4)
- **"ЦЕНТР МОЛОДЕЖНЫХ ПУТЕШЕСТВИЙ"** (вул. Варвашэні, 17-101)


CD **/СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА/ #3 (87) 2003 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар** Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі
/alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Вёрстка** achuma_group
**Дызайн вокладкі** vitaminv

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр:** 206-75-75, абанэнт "DУМКА"
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by
www.studumka.com

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.





Друкарня ТДА "НоваПрынт".
Ліцэнзія ЛП № 285, выдадзеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера мелаваная 90 г/м²
Падпісана ў друк 24.03.2003 г.
Замова № 473
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны



самая брыдкая жанчына ў сьвеце

28-31




НЯ ПРОСТА МОДА

21



32-34



35-37



10-11



38-39




7-9

## ВЭРЫ НАЙК

Можна толькі ўявіць сабе зьдзіўленьне прадстаўнікоў флёры і фаўны заходняга ўзьбярэжжа Амэрыкі - ад штату Вашынгтон да Аляскі, - а тым больш абарыгенаў, якія аднойчы сьцюдзёным ранкам убачылі на беразе замест звычайнага плянгтону і водарасьцяў масу рэльефнага прадукту. Аддалена падобны да каралаў, якія ў прынцыпе ня маюць звычкі рабіць суіцыдальныя выкіды на сушу, тым больш у такіх неспрыяльных умовах надвор'я, аб'ект пры бліжэйшым разглядзе аказаўся... морам (ці штормам?) звычайных красовак Nike. Шок не пакідаў назіральнікаў цэлы дзень: адкуль такая колькасьць баскетбольнага абутку?

Як удалося высьветліць агенту **Associated Press**, эколяга-гандлёвы катаклізм адбыўся дзякуючы шторму (усё ж такі!), што здарыўся ў раёне паўночнай **Каліфорніі** і змыў з борту грузавога судна тры кантэйнэры, у кожным зь якіх было **5500** параў **Nike**. Што да шоку, дык самае прыкрае чакала марадзёраў наперадзе: **"Спэцыялісты"** Nike забыліся перад пагрузкай зьвязаць матузкі параў красовак, так што давядзецца падбіраць са знойдзенага **правы і левы** красовак аднаго памеру", - урачыста абвесьціў нейкі Кэртыс Эбэсмэер, які заявіўся на закіданы бераг у якасьці акіянографа са спэцыялізацыяй "адсочвальнік перасоўваньняў па акіяне абутку, цацак і інш". Зрэшты, ня ўсё аказалася фатальным: той жа містэр Кэртыс з упэўненасьцю супакоіў прысутных ахвотнікаў да дармавіны, што "пошук - справа гонару кожнага з нас, тым болей што тэрмін прыгоднасьці ў красовак немалы, а плаваньне цягам месяца па акіяне - хіба выпрабаваньне?"



## ФІЛЬМЫ МЭТРО

**Валера Махно**, прадусар **"Kriwi"** і ідэйны натхняльнік **"беларускай хаткі"** ў Бэрліне, выступіў з новай ініцыятывай - прывучыць менчукоў да "хуткай на ідэі" кінапрадукцыі. У Менск ён прывёз фэст кароткамэтражак **"Інтэрфільм"**.

Для далёкіх ад нямецкай рэчаіснасьці: бэрлінскаму "Інтэрфільму" больш за **20** гадкоў, і за гэты час на экране фэсту дэманстравалася каля **2800** стужак рэжысэраў больш як з **65** краінаў сьвету. Жанравыя рамкі ад самага пачатку былі размытыя - ад трылераў, камэдыяў, дзіцячых фільмаў і эротыкі да рэклямных ролікаў. Кранамэтраж - як мага найменшы, часам да 1-2 хвілінаў. То бок "Канскія львы" і побач не стаялі. Усенароднасьць фэсту абумоўленая простай рэччу - даступнасьцю. У кожным вагоне бэрлінскага мэтро ўстаноўленыя тэлевізары, што аднойчы падштурхнула арганізатараў "Інтэрфільму" да думкі рэалізаваць праект "Going Underground".

Дыстрыбуцыя фэсту пачалася толькі два гады таму, і Беларусь - **першая** краіна Ўсходняй Эўропы, дзе рэтрансьлюецца "Інтэрфільм". Гэта і зразумела: у адным з 11 фільмаў беларускага фармату галоўную ролю сыграў сам маэстра **Каніщчаў**, а музыку да фільму прыдумала **Вераніка Круглова**.

## ПА ВАСЯМНАЦЦАТЫМ МАРШРУЦЕ

Найлепшая беларуская газэта **"НАВІНКІ"** распачала другую пяцігодку сваёй ударнай працы. Заканчэньне першай пяцігодкі супрацоўнікі газэты ня менш ударна адзначылі **28 лютага** ў клюбе **NC**. На сьвяткаваньні прысутнічалі **Паўлюк Канавальчык**, **Лёлік Ушкін**, **Зьміцер Серабракоў**, **Шырлі** ды іншыя афіцыйныя і проста знакавыя асобы. Акрамя таго, на вечарыну былі запрошаныя такія выбітныя (анты-) культурныя дзеячы, як **Андрэй Хадановіч**, **Ганна Кісьліцына**, **Зьміцер Вішнёў**, **Мітрыч**, **Лёша Chicanos** etc., etc. З музычнымі віншаванкамі выступілі гурты **LOS CHICANOS** (у асобе Лёшы Chicanos), **MAYBE**, **LA BOMBA**, **KARAOKE VOMIT**, **"ВІРУС ЛІХА"**. Падчас вечарыны адбылося ўрачыстае ўручэньне **"Оскараў"** аўтарам найлепшых матэрыялаў, надрукаваных у газэце за пяць год. Цырымонію праводзіў **Эдвард Тарлецкі** і знакамітая артыстка **Вава**, у асобе якой многія з радасьцю пазналі кагосьці зь сябрукоў таго ж сп. Тарлецкага. Акрамя таго, усім аўтарам газэты, сябрам аўтараў і сябрам сяброў аўтараў урачыста і бясплатна ўручалася **піва**. Жадаем "Навінкам" посьпехаў і як найчасьцей адзначаць сваё пяцігодзьдзе ў такой цёплай абстаноўцы.

**НАВІНКІ**

*l&d*




3 красавіка 2003 году ў праекту

## НАША МУЗЫКА

маленькі Дзень народзінаў - яму споўніўся адзін месяц. Дзякуючы НМ у тых, хто аддае перавагу якасьці, а ня колькасьці, ёсьць магчымасьць узяць актыўны ўдзел у фармаваньні беларускага топ-10. Як гэта адбываецца?

НАША МУЗЫКА - дзіця мэдыйнага трохкутніку **107.9 FM** - **www.music.tut.by** - газэта **"Ва-банк"**. Прагаласаваць за ўпадабаную песьню можна двума спосабамі:

**1.** Зайсьці на сайт www.music.tut.by, дзе разьмешчаная табліца ўдзельнікаў НМ, і аддаць голас за трэк, які, на вашую думку, прэтэндуе на лідэрства. За адну песьню можна галасаваць толькі адзін раз.

**2.** Выразаць з газэты "Ва-банк" купон і адправіць яго на пазначаны адрас зь пяцьцю лепшымі, на ваш погляд, кампазыцыямі.

Вашыя галасы сумуюцца, і ў 21.15 па панядзелках на хвалях "Альфа-радыё" 107.9 FM вы слухаеце праграму НАША МУЗЫКА зь лепшай чацьверкай па выніках вашага галасаваньня. І на дэсэрт - абсалютна новы, сьвежазьведзены трэк.

На сайце www.music.tut.by ёсьць форум НАША МУЗЫКА, дзе можна выказаць сваё меркаваньне на любую тэму, што датычыцца праекту, задаць арганізатарам пытаньні, якія вас цікавяць, і атрымаць на іх адказы.

**9 траўня 2003 году** ў 19.00 у к/з "Менск" адбудзецца канцэрт НАША МУЗЫКА. Адметна тое, што патэнцыйныя гледачы самі выбіраюць сабе выступоўцаў, таму што канцэрт будзе арганізаваны па наступнай схеме: чацьверка лепшых выканаўцаў па выніках агульнага галасаваньня + лідэр апошняга перад канцэртам тыдня. Усё ў вашых руках! Лягчэй сказаць, што ў нас нічога не адбываецца і не ствараецца, складаней знаходзіць, выбіраць, ацэньваць і выказваць сваё меркаваньне. Калі ў вас ёсьць густ, стыль і высокія патрабаваньні да любой прадукцыі - гэты праект для вас. НАША МУЗЫКА мае на мэце данесьці да слухачоў тое, што народжана ў Беларусі, і атрымаць аб'ектыўную ацэнку пачутага.

**13 чэрвеня 2003 г.** у НВЦ "БелЭкспа" адбудзецца буйнамаштабны ФЭСТ "НАША МУЗЫКА", у праграме якога - конкурсы, прызы-падарункі і шмат добрай беларускай музыкі.

*ra*








## ПРЫЕЖДЖЫЯ АРТЫСТЫ

Для ўсё большай колькасьці заежджых трубадураў беларускія канцэртныя пілігрымкі ператвараюцца ў псыхарэляксацыйныя вяжы з элемэнтамі цырку на дроце. Найбольш экзальтаваным тубыльцам адныя "Імёны" засьцяць вочы, мы ж прапануем толькі факты.

**Міха Воран**, расейскі электра-агент, падчый прыезд "недаакультураныя правінцыялы" не замаўлялі хіба што лімузынаў у ружовых танах, павёў сябе цалкам адэкватна. **www.mixtura.org**, дыстрыбутары якога мелі гонар прысутнічаць на сэце спадара ў **"Цветах"** (гл. мінулы CD), зь непрыхаваным спакоем канстатавала: "Міха Воран непарушна граў **Chemical Brothers** з альбома **Dig Your Own Hole**". Пасьля непрацяглага экскурсу ў гісторыю фэномэна клюбнай фанэрнай музыкі безыменны дыстрыбутар дае грунтоўную і досыць інфарматыўную выпіску са справы "М.Воран у Менску. Як гэта выглядала": "Музычны матэрыял аб'ядноўваецца ў спэцыяльныя блёкі аднойчы і назаўжды. Робіцца гэта загадзя. Так бы мовіць, у студыйных умовах. На вечарынцы варта адно што зьвесьці між сабой гатовыя часткі сэту". Магчыма, расейскі працаўнік пульта і плытаў - праваднік новай эстэтыкі ў калянізаваных рэгіёнах, але так ці інакш у нашай гісторыі толькі і ўражвае, што няхітрасьць дыскжакей-**імітацыяў**.

Другі (але ці апошні) выпадак псыхарэляксацыйных сэансаў для любых менскіх слухачоў давялося ўбачыць на канцэрце power-flower rockers **"Vopli Vidoplassova"**, з банды якіх у нашай сталіцы застаўся толькі сп. **Скрыпка**. Вострае рэсьпіраторнае захворваньне, падмацаванае грыпам невядомай групы, скасіла ўвесь украінскі ансамбль. Афіцыйныя крыніцы трымаюцца менавіта гэтай вэрсіі.

Да гонару фронтмэна, VV могуць быць замененыя і ім адным , калі да яго дадаць пару "комбікаў", гітару, баян, трубу і драм-машынку. Праўда, жарты, песьні, пот і кроў, разбаўленыя авацыямі тысячы зь нечым наведнікаў к/з **"Менск"**, так і не маглі заглушыць тупое: **"Што адбываецца?"** Замест адмены канцэрту, якое выдавала б на больш эфэктны працяг шоў наступным разам, атрымалі звар'яцелага на другой гадзіне ўкраінца.

Так і трэба - no actors in relax.




## НАШЫ САПАТЫСТЫ

**Хард-ф'южн**, складзены з розных пазлаў экстрэмальнай музыкі і замяшаны на вострасацыяльнай тэматыцы з элемэнтамі брутальнага патрыятызму, статус інкогніта на рок-эстрадзе - пра што яшчэ можна марыць заўзятарам old school? Адназначна пра **"Zet"** - беларускую банду, з дыскаграфіі якой вядомы толькі адзін альбом **"З Новым годам"**.

Ня ў час прыйшоў - гэта не праклён, а лёс суайчыньнікаў. Зьявіцца ў час і ў прызначаным месцы - як кепскі тон: жыві не сьпяшаючыся, і цябе заўважаць актывісты. Па легендах, "Zet" утварыўся яшчэ ў 1970-ыя, але дзякуючы палітыцы карных органаў БССР калектыў так і ня здолеў перасягнуць межы сацыялістычнай бацькаўшчыны ў пошуках лепшай канцэртнай долі ў Лёндане і на пэўны час раскідаў удзельнікаў і натхняльнікаў. Яны сабраліся толькі напрыканцы 1990-х, каб стаць нашымі фаварытамі напачатку 2003-га.

**Сапатысты** - не такія простыя людзі, каб зьдзіраць зь іх маску і з "пристрастием" дапытвацца пра месцазнаходжаньне **Камандантэ**. Зусім магчыма, што "Zet" падпявалі сэпаратыстам ля вогнішчаў у джунглях **Балівіі**, бо адкуль такая прага да экстрэмісцкай крэольскай патэтыкі? Але, едкі пах пораху - ці ня ў кожнай песьні. Прыгадайце дэбілаў з Riot, касталомаў з Rage Against і ідэалягічнага закідона Пазьняка, - і яны не падобныя да "Zet"? **No passaran** - адзіны правільны код для трэш-прыхільнікаў.

Яны, далібог, занадта культавыя, каб бачыць іх на кожным клюбным канцэрце і пасьля шторазуназаляць Канцлеру "Лявон, сфатаграфуйцеся са мною!" Таму толькі дыскі і сайт **www.radzima**. Дамэнная зона невядомая.


















тэкст: maryjka

# "РАСЧЛЯНЁНКА"

## частка ⟷ цэлае

**У архаічныя эпохі чалавек атаясамліваў сусьвет з уласным** целам. **Індусы, напрыклад, уяўлялі сабе сьвет неабсяжным першачалавекам Пурушам. Цяпер усё трошкі інакш: чалавек настолькі спасьціг самога сябе, што пачаў напаўняць часткі свайго** цела **самымі рознымі, часам вельмі далёкімі ад фізіялёгіі сэнсамі. У наш час** цела **мысьліцца чалавекам як ідыёма: значэньне кожнай часткі даўно ўжо ня роўнае значэньню цэлага. Ніжэй я паспрабую гэта пацьвердзіць, прапанаваўшы на ваш суд некалькі кавалачкаў** цела **культуры.**

### ЛЁГКІЯ І БАГДАНОВІЧ

Француз Фрэдэрык Бэгбэдэр займае ў сучаснай літаратуры пасаду абвяргальніка непахісных, здавалася б, ісьцінаў.
Асабіста мяне моцна торкнулі наступныя развагі аднаго зь яго герояў:
*- Каханьне ня мае нічога агульнага з* ***сэрцам*** *- гэтым агідным насосам, які качае кроў. Каханьне перш за ўсё сьціскае* ***лёгкія****. <...>* ***Лёгкія*** *- самы рамантычны з чалавечых органаў: усе закаханыя хварэюць на сухоты, нездарма ад іх памерлі Чэхаў, Кафка, Фрэдэрык Шапэн, Джордж Оруэл і сьвятая Тэрэза зь Лізьё...*
Нават на фізіялягічным узроўні стаў пераймальнікам эўрапейскіх традыцыяў Максім Багдановіч - "лірык тонкай душы", дзякуючы якому кожны вучань РБ ведае, як будзе "тубэркулёз" па-беларуску (сыфілісу ў гэтым пляне пашанцавала менш).
Невядомы мне аўтар скульптурнага партрэту, які можна пабачыць у холе менскага музэю Багдановіча, стварыў магутны вобраз. Паэт выпрастаўся на пастамэнце ў дзіўнай позе: ці то ў парыве натхненьня, ці то ў прыступе сухотнага кашлю. Можа таму Багдановіч і пісаў незвычайна **лёгкія**, празрыстыя вершы, што таяў на **вачах**?
Сухоты былі для Багдановіча нечым большым за спадчынную хваробу: яны ўспрымаліся як рок, які кіруе чалавечым лёсам.
Першыя беларускія вершы і першыя прыкметы тубэркулёзу **лёгкіх** зьявіліся ў адзін год - калі хлопцу было васямнаццаць. Кажуць, што ён меў шанец па накіраваньні ад Віленскай беларускай грамады паступіць у Пецярбургскі ўнівэрсытэт, аднак па стане здароўя ў паўночную сталіцу імпэрыі паехаць ня змог. Вучыцца на філёляга выправілі Браніслава Тарашкевіча (sic!). Сухоты былі тым, што канчаткова разлучыла Багдановіча з Радзімай, да якой ён фанатычна імкнуўся ўсё жыцьцё. У 1917 годзе ён ад'яжджае зь Беларусі ў Ялту, каб памерці "ў белым доме ля сіняй бухты".
У наш час сухоты перасталі быць сацыяльнай хваробай. **Лёгкія** беларусаў узятыя пад татальны кантроль рэакцыі Манту, і кожны патэнцыйны сухотнік стаіць на



ўліку ў тубдыспансэры. Эру сухотаў пакрысе замяшчае эра раку (**лёгкіх**). Цяперашнія аматары нікатыну няблага падкаваныя ў сфэры мэдыцыны, аднак гэта не замінае ім падстаўляць свае **трахеі і бронхі** пад чэпкія клюшні невылечнай хваробы. І толькі самым дасьціпным з курцоў прыходзіць да **галавы**, што пісаць "**лёгкія**" на пачку цыгарэтаў - гэта як зьмяшчаць слова "**печань**" на цэтліку гарэлкі.

Наіўная эротыка пачатку XX ст. эвалюцыянавала да яго завяршэньня ў жорсткае порна - зборнік "Вянок" на худых **грудзях** паміраючага Багдановіча і чорныя **лёгкія** на плякатах з антырэклямай паленьня розьняцца гэтак жа, як каханьне і сэкс. Бэгбэдэр, разважаючы пра тубэркулёз, пры ўсёй сваёй ультрасучаснасьці гучыць па-француску сэнтымэнтальна:

*Кожны чалавек тоіць у душы мілосны смутак, які да часу дрэмле. **Сэрца**, не разьбітае каханьнем, яшчэ ня **сэрца**. **Лёгкія** чакаюць сухотаў, каб адчуць, што яны існуюць. <...> Любому з вас варта завесьці вадзяную лілею ў **грудной** клетцы...*

## ВУХА, МАЙК І ЮЛІЯ

*Калі адно вуха стаіць, а другое - не, то ніякія дабаўкі вам не дапамогуць.*

***з парадаў сабакаводам***

Калі пяць год таму навіны спорту пачыналіся з кадраў акрываўленай **пысы** Майка Тайсана, які толькі што адгрыз **вуха** Эвандэру Холіфільду, я вельмі спачувала апошняму. І зусім не таму, што рванае **вуха** - гэта балюча і непрыгожа: усё адно адгрызены кавалак небараку потым прышылі, і ён нават прыжыўся. Затое вельмі крыўдна, думалася мне, - усё жыцьцё трэніраваць **кулакі**, а праславіцца на ўвесь сьвет дзякуючы кавалку ўласнага **вуха**. Крыўдна ведаць, што чарнаскурыя хлопчыкі, якія раней зьбіралі твае фатаздымкі, цяпер запіваюць кока-колай шакаляднія "**вушы** Холіфільда".

**Вуха** маёра Амельчанкі ледзь ня ўпала на беларускую палітычную арэну ў траўні 2001 г. Яно пацярпела ад **зубоў** жонкі былога прэм'ер-міністра Міхала Чыгіра. Кабета, імкнучыся прайсьці на закрыты судовы працэс над мужам, пабілася на ганку з амапаўцамі. Амельчанку наклалі шэсьць швоў, Юлія Чыгір атрымала два гады калёніі з адтэрміноўкай за напад на прадстаўніка ўлады.

Абодва канфлікты маюць адваротны бок. Тайсан, які ўляцеў праз скандал з **вухам** на вялікія грошы, пасьля жаліўся журналістам, што перад тым як пакусаць Холіфільда ён атрымаў ад таго два разы **ілбом** у **вока**. Спадарыня Чыгір таксама пачала ня першая... Гэтыя дзьве тыпалягічна блізкія гісторыі паказваюць, як неглыбока ў падсьвядомасьці сучаснага чалавека ляжаць зьвярыныя інстынкты. **Сківіцы** - апошняя зброя прыгнечаных і абражаных, калі **рукі** бездапаможна сьцятыя баксёрскімі пальчаткамі альбо абцугамі **пальцаў** ахоўніка.

## ВАЛАСЫ І СЭМІЁТЫКА

Сэміётыка - навука пра знакі і сыстэмы знакаў. Яе заснавальнік Чарльз Пірс







упершыню клясыфікаваў некаторыя аб'екты, створаныя чалавечым грамадзтвам альбо зьвязаныя зь ім як сыстэмы для перадачы інфармацыі.

Некалькі вядомых мне знакавых сыстэмаў зьвязаныя непасрэдна з чалавечым **целам** (чалавечая мова, міміка, сыстэма жэстаў, зэкаўскія татуіроўкі). Думаю, **валасы** таксама ёсьць часткай чалавека,





задзейнічанай у перадачы інфармацыі. Вельмі часта адметнае становішча ў грамадзтве абазначала адметная фрызура - варта згадаць, напрыклад, танзуры сьвятароў, разнастайныя манахаў альбо "осэлэдці" запароскіх казакоў. У маім позьнеперабудовачным дзіцячым садку насіць у **валасах** белыя банцікі, калі няма сьвята і не нарадзіўся дзядуля Ленін, мелі права толькі імяніньніцы.

Мусіць, найпрасьцейшая і разам з тым найцікавейшая апазыцыя **валосьсевай** сэміётыкі - "кароткія - даўгія **валасы**". Самае стэрэатыпнае яе значэньне "мужчына - жанчына" ў XX ст. актыўна перадольвалася. (Маю цётку бацькі лупцавалі аднойчы ў жыцьці - за адрэзаную касу: кароткая жаночая фрызурка была для бабулі знакам непрыстойным.) На мужчынскай **галаве** даўжыня **валасоў** стала мець канцэптуальнае значэньне: няволя - свабода, таталітарызм - бунт, make love - war. У мюзыкле Майкла Ўэлера "**Hair**" **валасатаму** сьвету гіпі супрацьстаіць **безвалосая** вайна ў Віетнаме. З савецкіх часоў **патлатыя** нефармалы пазнаюць гопнікаў і скіноў па лысых патыліцах (адсутнасьць знаку - таксама знак), і наадварот.

## РУКА І МАРАДОНА

22 чэрвеня 1986 г. на Чэмпіянаце сьвету па футболе Дыега Марадона ўсадзіў **рукою** мяч у браму ангельцаў. Аднак дзіўным было ня гэта, а тое, што судзьдзя гол залічыў. "Мая **рука** - **рука** Бога", - пракамэнтаваў тое, што адбылося, Марадона.

У канцы мінулага году ў Аргентыне была створаная "Царква **Рукі** Божай". Брацтва дыегарыянцаў вядзе летазьлічэньне anno Diego (цяпер мы жывём у 42-м годзе AD).




Самае галоўнае сьвята мусіць адзначацца ў дзень эпахальнага матчу. Усе, хто не прызнае Марадону за бога, абвешчаныя ерэтыкамі, а тыя, хто дапамагаў яму ў кар'ерным росьце, прылічаныя да сьвятых. Звар'яцелых фанатаў можна зразумець. Няма таго, што раньш было: Марадона-бацька ўшчэнт скакаініўся і ператварыўся ў старога няўломка. Марадона-сын толькі-толькі стаў **нагамі** на футбольнае поле. Вернікі жывыя адно сьвятым духам былой славы куміра.

## СЭРЦА І ДАЛОНЬ

*бег запыханы Данка*
*са сваёй валянтынкай...*

***Джэці***

У 1976 годзе анамальная малпа Кінг-Конг у аднайменным фільме на **вачах** ва ўражаных гледачоў лясьнулася з хмарачоса. Ад такога паміраюць, аднак праз дзесяць год улюбёнца публікі вырашылі ўваскрасіць. "Кінг-Конг жывы" (1986 г.) пачынаецца з эфэктнай сцэны перасадкі Кінг-Конгу гіганцкага мэханічнага **сэрца**. Народ торкнула. Пасьля выхаду фільму ў амэрыканскіх цэнтрах трансплянтацыі пабольшала замоваў на новае **сэрца**, а сама ідэя штучных органаў пачала набываць новых прыхільнікаў.

Трансплянтацыя органаў - бадай што самае значнае дасягненьне XX ст. Першая пасьляхавая перасадка сэрца адбылася ў Кейптаўне ў 1967 годзе, і ўжо праз год гэтую справу паставілі на паток. Аднак яшчэ ў 1964-м, калі шараговы абывацель і ўявіць сабе ня мог **сэрца** асобна ад цела,



беларускі нарпісьменьнік Іван Шамякін у рамане "**Сэрца на далоні**" зрабіў героем хірурга, якому па ходзе сюжэту давялося патрымаць на **далоні** жывое чалавечае **сэрца**. У кантэксьце трансплянтацыйных досьледаў тагачасны Шамякін - вельмі нават прасунуты празаік.

## ДАЛОНЬ І СЭРЦА

"Чалавек - мера ўсіх рэчаў," - сказаў неяк Пратагор. Чалавек, як заўжды, усё зразумеў літаральна. Гісторыі вядомыя такія меры даўжыні, як славянскі **локаць** альбо ангельскі **foot**. Мара сучаснага чалавека **прыручыць** навукова-тэхнічны прагрэс увасобілася ў **palm**'е - кампутары велічынёй з **далонь**.

Называць **palm**'ам любую мадэль personal digital agent не зусім правільна, бо "**Palm** OS" - толькі адна зь некалькіх праграмаў, якія ўжываюць для pda. Аднак мэтафара распаўсюдзілася на любы від "на**далонь**ніка".

Першыя кішэнныя кампутары зьявіліся ў Беларусі гады чатыры таму і, нягледзячы на свой немалы кошт, вельмі хутка сталі папулярнымі. Яны, вядома, не дублююць кампутар альбо ноўтбук, аднак маюць тэкставы, графічны рэдактар, калькулятар, нататнікі, арганайзэр, гульні і шмат іншага. (З усіх праграмаў у машынцы маёй сяброўкі мне больш за ўсё падабаецца люстэрка: запускаеш - і можна глядзецца






ў манітор.) **Palm** дазваляе забыцца нават на кнігі, калі ўсталяваць у яго электронную бібліятэчку.

Звычайных уладальнікаў **palm**'аў варта адрозьніваць ад *пальмаводаў* - людзей, якія "гадуюць" свае кампутары ўсялякімі наваротамі. Pda - гэта тэхніка зь вельмі шырокімі магчымасьцямі, што і вабіць да яе шанавальнікаў прагрэсу.

Менскія пальмаводы - цэлая субкультура (падрабязна - на **www.pda.by**): **palm**-клюб зьбіраецца прыкладна раз на месяц. Менчукі падкрэсьліваюць, што ад аналягічных мясцовых тусовак ФІДОшнікаў альбо інтэрнэтчыкаў іхная розьніцца сваёй практычнай накіраванасьцю. У **palm**-клюбе пачаткоўцы могуць паслухаць даклады дасьведчаных пальмаводаў, паглядзець на навінкі рынку і атрымаць карысныя парады наконт наваротаў (напрыклад, як спалучыць **palm** з мабільным тэлефонам альбо выйсьці зь яго ў інтэрнэт).

Прагрэс прагрэсам, аднак чалавек, які засяроджана тыцкае *стылюсам* у надалоньнік, няўлоўна нагадвае аўта-бітламана, калі той праводзіць **рукой** па капоце свайго бліскучага "жука". Большасьць уладальнікаў **palm**'аў поўняцца незвычайнай пяшчотай да сваіх *маленькіх машынак за вялікія грошы.* Цалкам натуральна для людзей, у чыіх сем'ях галоўная скацінка-карміцелька - кампутарная мышка.

## НОГІ. ПРОСТА НОГІ

Гэтая скульптура стаіць у Менску, на рагу



вуліцаў Рыбалкі і Фабрычнай. **Ногі** ўдала спалучаюцца з навакольным архітэктурным ансамблем і выглядаюць цалкам самадастаткова. Праўда, кавалак арматуры, які строма вытыркаецца з блакітных шорцікаў, сьведчыць, што калісьці тут месьцілася нешта больш антрапаморфнае. Спробы высьветліць гісторыю ўсталяваньня кампазыцыі і прозьвішча скульптара ні да чаго не прывялі. Сябры маіх сяброў апавядаюць, што іх сябар калісьці меў знакавы дыялёг са старажылкай кварталу:

*- Бабуля, а каму помнік? Чые гэта **ногі**?*
*- Тут быў мальчык.*
*- А што за хлопчык? Мо, піянер які?*
*- Мальчык, проста мальчык.*

Здатныя стаць акрасай любой выставы сучаснага мастацтва занядбаныя, падрапаныя **ногі** тужліва зьвісаюць з высачэзнага пастамэнту, пасяляючы дэканструктыўныя ідэі ў **мазгі** раённых забойцаў-бытавушнікаў. Каля іх не фатаграфуюцца турысты, іх абмінаюць вясельныя картэжы. У той жа час яны вартыя ўвагі менчукоў ня менш, чым парасон бронзавай дзяўчынкі ў Ленінградзкім сквэры альбо **стручок** гаротнага анёла на Высьпе Сьлёзаў. У эпоху панаваньня фрагмэнтарнага мысьленьня абсалютна неістотна, *ці быў хлопчык.* **Ногі** ўзвышаюцца на рагу Рыбалкі і Фабрычнай помнікам у гонар перамогі Часткі над Цэлым.



# ГВАЛТ, ЗЬДЗЕКІ І КАТАВАНЬНІ

ДЗЕЦЯМ ПАСЬЛЯ ШАСНАЦЦАЦІ ПРЫСЬВЯЧАЕЦЦА

тэкст: Ігар Вуглік



Фізычны гвалт чалавека над чалавекам мае такую ж доўгую гісторыю, як і сам род чалавечы. Схільнасьць да гэткіх дзеяньняў назіралася яшчэ ў нашых прапродкаў. Многія дасьледчыкі лічаць, што прага прыніжаць, зьдзекавацца, прыносіць пакуты сабе падобным - гэта вынік сапсаванай генэтыкі хома сапіенсаў. Глядзіце самі: яшчэ нашыя найбольш далёкія продкі аўстралапітэкі не прапускалі нагоды разьбіць галаву сваяцкай гамінідзе, а пасьля пачаставацца яе мозгам. Рытуальны канібалізм, а таксама канібалізм звычайны (як сродак назапашваньня бялку арганізмам) суправаджалі гісторыю чалавецтва амаль да нашых дзён, дастаткова ўзгадаць масавы канібалізм падчас голаду на Ўкраіне ў 1930-х. Як тут не пагодзісься з З.Фройдам: прагнасьць да забойства і канібалізму - праява нашага падсьвядомага.

## ЛЕПЕЙ СЬМЕРЦЬ?



Разгул гвалтоўных фантазіяў чалавека можна параўнаць хіба толькі зь яго мастацкай творчасьцю. Самае паказальнае, што сьмяротныя не былі арыгінальнымі: хутчэй за ўсё, традыцыі вычварэнскіх катаваньняў і пакараньняў людзі перанялі ў багоў. Дастаткова ўспомніць тытана Прамэтэя, у якога арол сыстэматычна выклёўваў пячонку, жонку Зэўса Геру, якую валадарны муж падвесіў паміж небам і зямлёй і як сьлед адлупцаваў, ці асьлепленага багамі вешчуна Тырэсія. Менавіта багі пачалі практыкаваць псыхоляга-фізіялягічнае ўзьдзеяньне на ахвяру. А як па-іншаму назваць зьдзекі з Тантала, які стаяў у краіне нябожчыкаў у вадзе і ня мог напіцца, пакутаваў ад голаду - і ня мог сарваць плады, што віселі над ім? Ці над сьляпым Фінэем, ежу якога забіралі і апаскуджвалі гарпіі, альбо над Сізіфам, што да бясконцасьці цягаў на гару камень, які шторазу скатваўся долу.

Людзі добра засвоілі ўрокі багоў і разнастайнасьць іх мэтадаў катаваньня ды пакараньня, у першую чаргу, фізычна-болевых. Паўсюдна бытавалі бічаваньні, вырываньне пазногцяў, выломваньне пальцаў і іншыя жахі.

Ці гэта жахі? Хутчэй не: чаго вартае эксклюзіўнае катаваньне ў выкананьні старажытных грэкаў, названае колам Іксыёна, калі зь яго дапамогай на целе рабіліся глыбокія раны. Па праўдзе кажучы, пэўныя зародкі гуманнасьці прачыналіся ў грэкаў і падчас катаваньняў: нагадаю, што ў іх катавалі толькі рабоў, і тое - у прысутнасьці сваякоў гаспадара, якія мусілі стрымліваць гаспадарскую жорсткасьць. Але імпэратар Тыбэры неяк зразумеў, што ўсе аднолькавыя перад багамі - ахвярамі катаваньняў палі свабодныя людзі. Сам імпэратар у доказ сэнтэнцыі "ўсе мы людзі, усе мы чалавекі" вырашыў паарыгінальнічаць і прыдумаў новую забаўку: людзей паілі вінам, а потым перавязвалі дзетародныя органы, каб немагчыма было справіць прыродныя патрэбы.

Як разнавіднасьць пакараньня людзі здаўна прымянялі разнастайныя калецтвы - у антычнасьці рабоў кляймілі, секлі рукі (імпэратар Калігула загадваў, каб адсечаныя канечнасьці вешалі рабам на шыю).

Фантазія розных народаў па-рознаму выяўлялася і ў фізычным гвалце. Вазьміце Японію, дзе аб'ектам самых вычварных катаваньняў былі шпіёны ніндзя. Ад пачатку сваёй прафэсійнай дзейнасьці шараговы ніндзя ведаў - лепей сьмерць, чым палон. Калі яго лавілі і ён не пасьпяваў цалкам зьнявечыць свой твар, каб пазбавіцца ваенных прыкметаў, ці адкусіць сабе язык, каб памерці ад страты крыві, ніндзя чакаў цэлы набор цяжкіх выпрабаваньняў. Паступовае адразаньне пальцаў рук і ног, а потым і канечнасьцяў - гэта толькі першае слова сьмяротнага хайку...

## ПЕРАД ТЫМ ЯК СТАЦЬ "ЗОРКАЙ"



Паміж катаваньнем і сьмерцю стаяць гвалтаваньні, пасьля якіх ахвяра яшчэ пэўны час можа жыць. Паглядзець, як пакутуе вораг - чаго яшчэ можа патрабаваць хворая псыхіка?

Да прыкладу, сярэднявечная, а пасьля новая Эўропа колькі стагодзьдзяў "забаўлялася" пастаноўкай бэстсэлеру "Молат вядзьмарак" з Богу душой невінаватымі простымі пралетарамі ў галоўных (пасіўных) ролях. Апрача гвалту над чароўнымі (sic!) целамі практыкавалася іх выпрабаваньне на саму вядзьмачую сутнасьць: небаракам зьвязвалі рукі-ногі і кідалі ў ваду. Самае цікавае было пасьля, калі ўсе з захапленьнем гадалі: выплыве - ня выплыве. Калі выплывала, значыць, вядзьмарка/вядзьмар - на вогнішча яго/яе! Калі танула, дык значыць... Была невінаватая?.. Ну, тады sorry!

Дарэчы, да віду доўгатэрміновых пакараньняў можна аднесьці і ўкрыжаваньне, якім рымляне падкрэсьлена зьняславілі чалавека. Менавіта так, паводле Новага запавету, быў пакараны Ісус Хрыстос. Укрыжаваныя людзі паміралі ад сьпякоты, голаду, смагі, нязвыклага становішча цела - пакуты маглі доўжыцца тыдзень і болей.

Да пакараньняў з доўгатэрміновай гарантыяй належыць і папулярнае саджэньне на кол. Перад тым як стаць "зоркай" вампірызму, менавіта саджэньнем на кол разьмінаўся князь Дракула - яго ахвярамі сталі сотні чалавек знаці разам з жонкамі.

Што гэта такое - асалода ад назіраньня за пакутамі ахвяры? Эрых Фром лічыў, што гэта праявы нэкрафільскай псыхікі: чалавек-нэкрафіл не абавязкова павінен атрымліваць задавальненьне ад фізычна мёртвых целаў - ён папросту схільны да ўсяго нежывога. Гісторыя дэманструе найбольш жахлівыя ўзоры прадуктыўнай дзейнасьці псыхаў-нэкрафілаў - узгадайце Тыбэрыя, Калігулу, Кляўдзія, рускага цара Івана Жахлівага, што асабіста прысутнічаў пры катаваньнях і пакараньнях ворагаў, Гітлера, адзінай расслабухай якога напрыканцы вайны былі дакумэнтальныя кадры пакараньня змоўшчыкаў, Сталіна, які падрабязна цікавіўся паводзінамі сваіх ахвяраў. Усё гэта праявы адной паталёгіі. Але колькі мільёнаў шарагоўцаў з падобнымі схільнасьцямі застаюцца па-за ўвагай кранікёраў чалавечых вычварэнстваў - гэта пытаньне.

## ПА-ПРОСТАМУ, ПА-НАШАМУ



Катаваньне было і ў нас - яго выпадкі фіксуюцца з часоў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Яно было легітымізаванае як у пісаным праве - трох Статутах ВКЛ, - так і ў праве звычаёвым - копным судзе (такі грамадзкі суд меў права выносіць сьмяротны прысуд). Катаваньні і пакараньні залежалі ад таго, каму (грамадзяніну, дзяржаве, царкве) і наколькі цяжка злодзеі наносілі шкоду. Казаць пра нейкія тутэйшыя вычварэньні не выпадае - пакараньне мела традыцыйна-эўрапейскі характар і толькі ў выключных выпадках вызначалася жорсткасьцю.

Як паўсюль у Эўропе, беларусы публічна ўжывалі катаваньне толькі да ня-шляхты - працэс ладзіўся ў спэцыяльным будынку ля ратушы рукамі ката. Так, асуджанаму задавалі шэраг пытаньняў, а калі той гуляў у "маўчанку", кат цягнуў падсуднага, ногі якога былі зафіксаваныя, за зьвязаныя рукі, і так спрабаваў здабыць сьведчаньні. Калі і трэцяя спроба была няўдалая, ахвяру чакаў "гішпанскі боцік" - трушчаньне костак ног.

Катаваньні шляхты ладзіліся ў спэцыяльна адведзеным месцы, каб простыя людзі не змаглі іх убачыць.

Што да ведзьмакоў, якіх і ў нас было багата, дык іх звычайна палілі. Цікава, што ў якасьці катаваньня перш-наперш палілі валасы па ўсім целе - і д'ябал не схаваецца, і ахвяра вытрымае катаваньне. Так было аж да канца 18 ст., калі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі спыніў сярэднявечнае вар'яцтва і выбіў у гонар такой падзеі адмысловы мэдаль.

Са зьяўленьнем у 17 ст. на нашых землях вялікіх казацкіх атрадаў характар катаваньняў і забойстваў істотна зьмяніўся. Нашыя продкі жахаліся паталягічнай жорсткасьці калегаў Хмяльніцкага, іх садызму ў дачыненьні да тутэйшых - пераважна шляхты, сьвятароў-каталікоў, гараджанаў. Казакі прынесьлі амаль нябачаныя віды пакутаў: расьпілоўваньне жывога чалавека, выдзіраньне кавалкаў мяса і інш. У рукі гадаў траплялі традыцыйна недатыкальныя чальцы грамадзтва - жанчыны, сьвятары і дзеці. Істотна даставалася габрэям - дарослых забівалі ўсіх без выключэньня, а дзяцей кідалі ў калодзежы і засыпалі пяском. Так другі раз у сваёй гісторыі пасьля паходу Івана Жахлівага Беларусь сустрэлася зь дзікім азіяцкім садызмам.

Зрэшты, адпаведна паводзіла сябе й войска ВКЛ у дачыненьні да казакоў. Калі казак трапляў у палон (а так было нячаста), дык яго чакалі ці пятля на галіне, ці кол. Прычым сам казак лічыў такую сьмерць пачэснай. Калі калоў было няшмат, на адзін маглі пасадзіць двух казакоў...

Гісторыя сьведчыць: чалавек - ці ня самая жорсткая істота на Зямлі. Як доўга такое будзе цягнуцца, невядома - некаторыя лічаць, што генэтыку ня зьменіш.

*СОНЕЧНЫ КРУГ, "ДЗЕЎКА І ДРУГ"*
*гэта малюнак хентай*

*Tanya Solo*

# **hen**tai

*Эротыка і парнаграфія - вось дзе сама брутальна эксплёатуецца выява чалавечага цела! Цікавасьць да іх хаваецца недзе ў глыбіні сьвядомасьці людзей і з часам не зьнікае - інстынкты ёсьць інстынкты, - але нейкія мэтамарфозы зь імі ў часе адбываюцца. Чаго вартыя эратычныя перажываньні чалавека эпохі рамантызму, які ўбачыў жаночую лытку, што выпадкова высунулася з-пад сукенкі - іх можна супаставіць хіба з буйнымі эмоцыямі беларуса, што ўгледзеў супляменьніцу ў лазьні. Назіраньне ж за кветкамі іншаземнай эрата-парнаграфічнай фантазіі для эўрапейцаў заўжды было справай эмацыйна і візуальна цікавай ды захапляльнай.*

vitaminv

# hentai – “ВЫЧВАРЭНСТВА”

выключна японскае. У японскай мове слова hentai выкарыстоўваецца ў розных сэнсах, аднак за межамі краіны за ім замацавалася адзінае значэньне - “маляваная эротыка і парнаграфія” - як статычная, у выглядзе коміксаў (**манга**), так і анімаваная (**анімэ**).

Эратычная графіка існуе ў Японіі немаведама колькі часу. Дакладней - вядома: першыя насьценныя малюнкі, якія дайшлі зь сярэдзіны першага тысячагодзьдзя нашай эры, мелі яўна выражаную эратычную афарбоўку. Да таго ж уласныя геніталіі японцы бачаць ня першае стагодзьдзе: яшчэ пры сьвяткаваньні традыцыйных сельскагаспадарчых сьвятаў жыхары краіны ўзыходзячага сонца шырока выкарыстоўвалі фалічную сымболіку. Сусьветна вядомыя эратычныя гравюры на дрэве **сюнга** [**shunga**] - “вясновыя карцінкі”, якімі цешыліся і народ, і эліта ў 17 ст., калі ў малюнках была забароненая ўсялякая сацыяльшчына з палітычным падтэкстам.

Зь сівой даўніны шмат што ў Японіі зьмянілася, але цікавасьць да маляванай эротыкі і парнаграфіі чамусьці ня зьменшылася - хутчэй наадварот. У 19 ст. ад сваіх амэрыканскіх сяброў японцы даведаліся, што апрача высокага мастацтва існуе народны жанр - коміксы. У выніку такога рэвалюцыйнага адкрыцьця ўжо падчас Другой Сусьветнай вайны мілітарысцкія японскія ўлады багата фінансавалі стваральнікаў “правільнага манга”, якое разглядалі як адзін з самых эфэктыўных сродкаў прапаганды супраць саюзьнікаў (тых жа амэрыканцаў), і даводзілі да белага каленьня, дакладней, да эротыка-прыгодніцкіх сюжэтаў асабліва заўзятых мастакоў-карыкатурыстаў.

І вось, калі ва ўсім сьвеце ўжо даўно адгула “Тропік-Рака” з падрабязным апісаньнем эратычных сцэнаў, дык у Японіі толькі ў 1984 годзе выйшаў першы хентай-сэрыял “Лаліта” [Lolita]. Ён адразу стаў легендарным, што зразумела: пры складанасьці і неадназначнасьці японскай пісьменнасьці паспрабуйце з дапамогай мінімуму вядомых сярэднестатыстычнаму японцу гіерогліфаў перадаць на пісьме ўсю прыгажосьць жанчынаў і мужчынаў падчас make love! У прынцыпе можна, але ёсьць шанец “апусьціцца” да танка - радасьці рафінаваных эстэтаў. Нашмат прасьцей і прымальней для простага люду разглядаць карцінкі зь невялікімі камэнтарамі кшталту “М-м-м, I like it”. Інфармацыі ў “м-м-м” для любога нармальнага чалавека больш чым дастаткова.

# hentai ДЛЯ ЎСІХ

Самі спажыўцы - ад школьнікаў старэйшых клясаў да пэнсіянэраў-аматараў каханьня з коткамі - задаюць патрабаваньні па зьмесьце і эстэтыцы хентай, дзякуючы якім можна выдзеліць дзьве асноўныя “ўзроставыя” групы прадукцыі.

Японскім тынэйджэрам прапануюць манга і анімэ: у іх апэлююць ня толькі да банальнага “траху”, але і да розных тэмаў кшталту цяжкасьцяў пераходнага ўзросту, першага каханьня з эратычнай афарбоўкай і інш.

Хентай для дарослых нашмат больш просты і ўтылітарны. Ён не нясе ніякіх звышыдэяў, апрача галоўнай - прыўнесьці ў кожны дом часьцінку радасьці ад сэксу. Адсюль і сюжэты - надзвычай прымітыўныя і схематычныя, цалкам арыентаваныя на паказ сэксуальных сцэнаў. У жанчынаў - гіпэртрафаваныя грудзі, шырокія вочы на палову твару, як правіла, даўгія і бляндыністыя валасы, астатняе - па жаданьні кліента. А яны таксама асабліва не патрабавальныя. Напрыклад, кліентура настойліва патрабуе ў стваральнікаў, каб шчупальцы маляваных герояў былі больш жвавыя.

Справа ў тым, што жорсткае да эротыкі і порна японскае заканадаўства забараняе паказ мужчынскіх геніталіяў. У выніку ўзьніклі **tentacles** - разнавіднасьць хентай, дзе чэлес выглядае як велізарныя шчупальцы. Напрыклад, у анімэ-сэрыяле “Блакітная дзяўчына” **[La Blue Girl]** вядзецца пра дэмана, схільнага да подзьвігаў дзеля міру ва ўсім сьвеце мсье, які пастаянна мастурбуе, каб перасоўвацца са сьвету дэманаў у сьвет людзей і абараняць апошніх. Іх, дэманаў са шчупальцамі-замяняльнікамі першасных мужчынскіх палавых прыкметаў, адрозьнівае неверагодная патэнцыя і неабмежаваныя сэксуальныя апэтыты. Публіцы падабаецца.

# hentai – ДЭВІЯЦЫІ

Побытавы фэмінізм, калі жанчыны імкнуцца зарабляць грошы і фінансава не залежаць ад мужчынаў, нарадзіў сада-маза хентай: зьнявечаныя ад салодкага болю японскія твары ў антуражы клясычнай чорнай скуранай амуніцыі, нагаек і да т.п. рэквізыту. Найлепшы прыклад - “Пінк з “Дракона” **[Dragon Pink]**, RPG-гулялка зь нескладаным сюжэтам і звычайнай камандай гульцоў: Герой, Барбар, Чараўніца, а для прыхільнікаў S&M - яшчэ і Рабыня. Функцыі апошняй - самыя відавочныя. І вось толькі ня трэба ныць, выбраўшы яе, - “калі што якое, дык адразу Рабыня!”

Гома і лесьбі таксама не засталіся па-за сюжэтам: **яой [jaoi]** і **юры [yuri]** глядзяць ня толькі блакітныя і ружовыя, але і шэрыя гетэрасэксуалы: хлопчыкі ў яой прыгожыя, так бы мовіць, эстэтычна дасканалыя, - і так міла кахаюцца (глядзіце анімэ і манга **“Wish”**)! А дзяўчынкі ў юры - вельмі sexy: іхныя добра разьвітыя малочныя залозы, падкрэсьленыя школьнай формай, падымаюць усемагчымыя настроі ўдзячных гледачоў.

Камэрцыйны хентай складае ў Японіі прыкладна ¼ усёй анімэ- і комікс-прадукцыі. Акрамя таго, існуе і аматарскі хентай - **додзінсі [doujinshi]**. Яго ствараюць непрафэсійныя мастакі, якія пасьпяхова прадаюць сваю творчасьць малымі партыямі і за вялікія грошы. Часта додзінсі - гэта перапрацоўка вядомых твораў, толькі з улікам “колькасьці і якасьці” ў сэксуальных сцэнах - у інтэрнэце нядаўна знайшлі хрэстаматыйнага Чабурашку ва ўзбуджаным стане. Але ён так і ня змог перабіць гістэрыю па додзінсі-каханьні пакемонаў Пікачу і Сатосі - апалягетаў сумесі хана [hana-hentai] - “кветкавага хентай” з адносінамі а-ля мыльныя опэры, лімон [lemon-hentai] з голым сэксам і Г-хентай [G-hentai] - адкрытага хентай з выключна жорсткім і вычварэнскім сэксам.

У асноўным менавіта ў выглядзе додзінсі японскі хентай трапляе праз інтэрнэт да эўрапеоідаў - аматараў парнушкі. Колькасьць такіх **атаку [otaku]**-фэнаў бесьперапынна расьце, чаму псыхааналітыкі знаходзяць сваё тлумачэньне.

Хентай задавальняе два асноўныя комплексы. Па-першае, “комплекс Лаліты”: многія мужчыны састарэлага (то бок пасьля 20-ці) узросту ва ўласных фантазіях ня супраць былі б пафліртаваць (і гэта яшчэ мякка сказана) зь непаўналетнімі дзяўчынкамі, у якіх афармiліся другасныя палавыя прыкметы. Дзякуй богу, усіх патэнцыйных пэдафілаў стрымліваюць жорсткія нормы закону, якія, аднак, не распаўсюджваюцца на хентай. Па-другое, “комплекс двухмернасьці”, калі “хворыя” (і гэта сказана ня мякка) аддаюць перавагу маляваным пэрсанажам - да рэальных людзей іх не прыцягвае.

Дарэчы, тыя ж псыхааналітыкі з радасьцю канстатуюць: камэрцыйны посьпех хентай на не-японскім рынку ў бліжэйшыя гады забясьпечаны. Ну прыцягвае эўрапейцаў і амэрыканцаў загадкавая японская душа ў розных іпастасях!

# МАНАЛІТЫ Ў ЦЕЛЕ

**Няпраўду кажуць, быццам аблічча Менску пазбаўленае пэўнай архітэктурна-скульптурнай стылістыкі - вазьміце такога разумніка і прывядзіце на цэнтральны праспэкт, хай яго душонка напоўніцца веліччу нэаклясыцызму, бадзёрага сталінскага ампіру, хай ён усьвядоміць магутнасьць нашых і ня нашых літаратурных і палітычных асобаў. Іх гіганцкія целы мерна крочаць па нашых парках і праспэктах, блукаюць паміж магутных псэўдарымскіх каленаў. Але гэта, зразумела, фантазія - большасьць гігантаў сядзіць ці стаіць. А за імі спакваля назірае Ігар ЛІК.**

## М.Г.

Там, дзе струменяцца воды блакітнай Сьвіслачы, на канструктывісцкай лаве сядзіць клясык літаратурнага сацрэалізму М.Горкі. Яго велізарная постаць зробленая надзіва натуралістычна: здаецца, тав. Пешкаў уздымецца ў весь свой велічны рост і скажа голасам бадзягі нешта кшталту "Чалавек - гэта гучыць горда!". Дарэчы, устаць і выйсьці ў горад монстру - без праблемаў: брама ў парку яго імя якраз на яго і разьлічаная.

Такое ўражаньне, што ўся цыкляпічная архітэктура г. Менску створаная толькі дзеля існаваньня менавіта такіх волатаў-тытанаў, што сваім жыцьцём і плённай творчасьцю яшчэ раз нагадваюць усім, хто - яны і хто - мы, а калі капнуць глыбей, дык і наагул пра нашае агіднае, брыдкае, будзённае існаваньне.

Дарэчы, пра памеры. Яшчэ старажытныя эгіпцяне добра разумелі гармонію суадносінаў велічыні помніка і ступені яго дэталёвай апрацаванасьці. Іх калосы зробленыя падкрэсьлена абагульнена, усе рысы твару і вопраткі стылёва велічныя і лякалічныя. Адсюль адзінства зьместу і формы, духу фараонскага праўленьня і тэктонікі. Паўстае лягічнае пытаньне да нашых імхатэпаў: які сэнс рабіць калоса, што нагадвае настольную статуэтку з натуралістычна-дробнымі падрабязнасьцямі? Навошта саджаць павялічаны прывід у задумлівую позу і прымушаць мроіць пра нешта сваё, монстра-інтымнае? Каб адлюстраваць псыхалёгію таталітарнага грамадзтва, дзе ёсьць людзі-калосы і чалавечкі! Тут мы маем на ўвазе найперш эстэтыку - даведзены да абсурду рэалізм-натуралізм, што адарваўся ад здаровага сэнсу.

## Я.К. і Ко

Асобны помнік - гэта толькі індывід, іншая справа, калі гаворка ідзе пра калектыў, а менавіта пра шматфігурную кампазыцыю. Такую, як на плошчы Якуба Коласа. Вось дзе прастора для шматлікіх эстэтычных уражаньняў! Колькі дзіўных хвілінаў правёў я пад ботамі пісьменьніка ў развагах: можна так файна завязаць матузкі, каб зьверху былі бачныя толькі паралельныя прамыя! Часта, часта я летуценіў на плошчы, камбінуючы розныя спосабы, пакуль адзін знаёмы асьпірант папросту на калідоры роднага ўнівэру ня вырашыў гэтую складаную дылему, прадэманстраваўшы ўсё на ўласным прыкладзе. І так добра зрабілася!!!

А тым часам справа ад клясыка паўляжыць тыповы рэліктавы хлопчык-нэандэрталец, які палымяна паказвае на філярмонію дзядзьку са стрэльбай. Што да філярмоніі (храм мастацтва!), дык тут усё зразумела, дастаткова кінуць беглы позірк на хаўрус няголенага пэнсіянэра бандыцкага віду і малалеткі. Але твар! Нізкі лоб, скошанае падбародзьдзе разам з моцнай фізычнай канстытуцыяй сьведчаць: ён - гуманоід нэандэртальскага тыпу, сьнежны чалавек з садранай ці палінялай скурай. Хутчэй за ўсё, гэта наш, беларускі экзэмпляр, знаходка якога прынясе сусьветнае прызнаньне Бацькаўшчыне.

Але як мужчына мушу прызнацца: калі гляджу налева ад дзядзькі, то першнаперш кідаю позірк на заднюю частку дзяўчыны, што слухае юнака.

Уяўляю, якіх начных роздумаў каштаваў гэты па-мужчынску сьмелы крок аўтару! Адразу ўяўляюцца ашалелыя ад свабоды старажытнагрэцкія графаманы ад скульптуры - стваральнікі Афрадыты Каліпігі (ад грэц. прыгожазадая) ці Артэміды Эфэскай са шматлікімі грудзямі. Іх бы ды ў нашыя ўмовы!

Пакінуўшы намёк на народнасьць (зад дзяўчынкі падкрэсьлена вясковы), аўтар прыдаў яму стромкую вытанчанасьць - у ёй адчуваюцца подыхі вясны, маладосьці, першага каханьня. У сукупнасьці са скрыпкай юнака яна ўтварае ліра-эпічную паэму, якая, як можна здагадацца, супрацьстаіць першабытна-нэандэртальскаму парыву хлапчука ў другой частцы скульптурнай кампазыцыі. І абедзьве яны ўраўнаважваюцца сьціплымі і адначасова таямнічымі ботамі клясыка.

Асабліва ўражвае блізасьць, шчырасьць, зь якой гіганцкія фігуры набліжаныя да нас: яны ня маюць п'едэсталу, яны тут, у кожным доме, дзе шануюць Коласа (дзяўчынцы, дарэчы, гады адбілі кавалак касы - вось што значыцьісьці ў народ!). Гэтая блізасьць - яшчэ адна праява імкненьня тутэйшых харэтаў інтымізаваць калосаў, зрабіць іх роднымі, блізкімі.

## М.Б.

Перад Тэатрам опэры і балету ў позе унтэр-афіцэра, што атрымаў ад нявесты гарбуза, стаіць чароўны лірык Беларусі Багдановіч, гэткі Фэлікс Эдмундавіч. Хваравіта-вытанчаны паэт захутаны ў чырвонаармейскі шынель-палітон. Унізе палітон крыху разыходзіцца, дэманструючы, як можна меркаваць, сьмелую думку скульптара аб неардынарнасьці паэта. Лірычны маналіт, горда склаўшы рукі на грудзях, глядзіць некуды, не зважаючы на чалавечую беганіну. Поза адмірала ці тырана. Карацей, пастаўлены Максім Горкі.

## ЕТС.

Сярод нашых лірычных маналітаў ня ўсе застылі ў прастрацыйным задуменьні. Імкнецца да руху Янка Купала, абвяргаючы даўно вядомы пастулят, што вялізным постацям, зробленым у манумэнтальнай стылістыцы, лепей стаяць на месцы.

Шэраг генэтычных чалавечых парадоксаў і анамаліяў дапаўняе цётка, што на праспэкце Машэрава, з вырастаючымі (імплянтаванымі?) з пляча трубамі. Гэты хірургічны прыём здаўна выкарыстоўваецца некаторымі афрыканскімі народамі, якія ўстаўляюць у нос, губы і вушы разнастайныя вялікія рэчы, у тым ліку і трубкі.

Яшчэ адзін падазроны экспанат homo sapiens хаваецца ў менскім мэтро. Сярод рэліктавых прыкметаў трэба адзначыць занадта даўгія рукі, крываватыя ногі і дзіўны, накіраваны ўнутар адсутны позірк. Можна меркаваць, ці то перапрацаваўся, ці то сыстэматычна ўжывае галюцынагены.

Усе гэтыя біялягічныя дзівосы ўдала дапаўняе твар Ільліча-тэрмінатара на станцыі яго імя. І куды, як не да мэтро, крочаць жудасныя ў сваім цялесна-рэвалюцыйным парыве масы з фасаду Дома модаў, што на Нямізе? Колькі гадоў эвалюцыі - вось табе і маеш: ня тое што нэандэртальцы - тыя ўсё-ткі людзі разумныя, мозаг як у нас, - не, гэта папярэдняя фаза эвалюцыі, досыць рэдкая, як мяркуюць, тупіковая галіна: аўстралапітэк Бойса, а можа, і мэгантроп зь Явы (рост - 2,5 м) - наймагутнейшы прадстаўнік раньніх дачалавечых і чалавечых формаў.

Нават з помнікамі больш-менш чалавечых памераў у нас ня ўсё ладна. Чорная хмара прывідаў вісіць над галавой дзядзькі Язэпа Драздовіча (ці не ад яе ён шпарка бяжыць з Траецкага прадмесьця?), чалавека, творчасьць якога скіраваная да іншаплянэтнага жыцьця. Што сапраўды зроблена арганічна, дык гэта помнік Леніну на плошчы Незалежнасьці. Чорны маналіт з чалавечкамі ўнізе адразу дае ўяўленьне пра характар эпохі і чалавека.

## ДЛЯ ПАДРЫХТАВАНЫХ

Менскія скульптуры часоў таталітарнага мастацтва літаральна акупуюць цэнтральную магістраль Менску - ад помніка Калініну да помніка Леніну. Гэта знакі-сымбалі, галоўнае ў якіх - ідэалягічны кантэкст, што грунтуецца на эстэтыцы сацыялістычнага рэалізму зь яе прыматам прастаты, ідэалягічнай даступнасьці. Мастацтва, цалкам зьедзенае ідэалёгіяй, дзе галоўнае - прэзэнтацыйнасьць, дзе ўсё, што мае дачыненьне да ўлады, дзяржавы - будынкі, скульптуры, ядальні і пісуары - выключнае. Тубыльцамі гэтыя псэўдаэгіпэцкія пэрформансы ўспрымаюцца як належнае, нават ня ў самых тупых выданьнях можна прачытаць пра іх "мастацкую, грамадзкую каштоўнасьць".

Напэўна, патрэбнае новае пакаленьне, якое ня памятае пра эгіпэцкі палон, якое пратрэ вочы і жахнецца: монстры ідуць!

# SUPERMANІЯ

## ад CAPTAIN AMERICA да HELLSPAWN

тэкст: Martin Shoen

Як бы мы ні грэбавалі супэргероямі, як бы ні абзывалі іх танным прадуктам амэрыканскай поп-культуры, яны - гэта мы. Яны вельмі многае распавядаюць нам пра нас саміх. Глядзячы на супэргерояў розных часоў, мы можам скласьці для сябе карціну эвалюцыі сучаснага чалавека. І зразумець, чаму анёлападобны Супэрмэн раптам ператварыўся ў д'ябла Hellspawn. І навошта амэрыканцам у пачатку XXI ст. зноў спатрэбіўся пэнсіянэр Captain America.

## CAPTAIN AMERICA




- тыпова амэрыканскі пэрсанаж. Справа нават ня ў імені. СА - хадзячы сымбаль амэрыканскага патрыятызму. Граміла з гіпэртрафаванымі плячыма, бычынай шыяй і шварцэнэгераўскім біцэпсам. У параўнаньні зь ім нейкі там Спайдэрмэн падаецца ня большым за павука. Твар СА выпраменьвае моц і непахіснасьць - сталёвы погляд, маркантная сківіца... Перад намі Геркулес, Тэсэй & Co іншых антычных герояў у адным фляконе. Стваральнікі вобразу СА скарысталіся праверанай тысячагодзьдзямі сымболікай. Геркулеса шанавалі і ў Грэцыі, і ў Рыме. Прымхлівыя рымляне амаль у кожным горадзе пабудавалі яму храм.

Прымхлівыя амэрыканцы часоў "нараджэньня" СА друкавалі і раскуплялі мільённыя наклады коміксу.

Гэта было ў часе Другой Сусьветнай. Фашызм паставіў на калені амаль усю Эўропу, нібыта стаўшыся той бурлівай сілай, якую Бог абяцаў чалавецтву да апакаліпсісу. Людзі ўпершыню амаль фізычна адчулі канец сьвету.

Грамадзтва мела патрэбу ў мэсіі, які ўратаваў бы свой статак. Captain America да нітачкі прапітаны сымбалямі, што ад пачатку павінны былі надаваць яму выгляд нябеснага выратавальніка. Ён пакрыты строем сіняга колеру, колеру неба. На ягоным ілбе арол, знак панаваньня нябесных парадкаў - менавіта арол быў атрыбутам Зэўса. Гэта таксама і сымбаль свабоды, а да таго ж, не забудземся, птушка з гербу ЗША. На грудзях і шчыце СА вялікая белая зорка, што сымбалізуе надзею і выратаваньне - у свой час зорка вяла валхвоў да Езуса. На патыліцы - два белыя крыльцы, асацыяцыя з Гермесам, пасланцам Зэўса. Атрымліваецца, Captain America - нейкі хрысьціянска-грэцкі бог, які прыйшоў на зямлю, каб ўратаваць нас.

Натуральна, зьявіўшыся ў часе ўступленьня ЗША ў Другую Сусьветную вайну, змагаўся СА амаль выключна зь "нямецка-фашысцкімі агрэсарамі". Недзе ўжо чулі? Ня дзіва. Толькі савецкая прапаганда 40-х была здольная на такі самы патас. Але тая была настроеная на іншага выратавальніка: маленькага харызматычнага стальнога грузіна зь люлькай. Кожнаму сваё...

Ва ўсякім выпадку, Captain America цалкам адпавядае амэрыканскай поп-культуры: яркі, патасны, стракаты... Майкл Джэксан саракавых. Ён дапамог моладзі адчуць сябе моцнай і самаўпэўненай. Ён быў сымбалем адзінства амэрыканскай нацыі і моцы амэрыканскага духу. Ён быў запатрабаваны самім часам. Гэты ж час яго і пахерыў, калі фашызм ды камунізм фактычна зьніклі, і чалавек зразумеў, што армагедон у чарговы раз адкладаецца.

## СПАЙДЭРМЭН




Спайдэрмэн надзвычай спрытны, скача нібы гумовы, ня думаючы пра суставы ды зьвязкі, якія можна вывіхнуць ці парваць. Ён вольны ў сваім целе. Яго не хвалююць створаныя чалавецтвам фізычныя межы - пераходы, сьветлафоры, пробкі. Ён лётае па дахах хмарачосаў, не зважаючы на цеснату гораду. Звычайнаму ж чалавеку ад гэтай цеснаты хочацца ванітаваць - ён "нарадзіўся" ў дзікіх лясах ды балотах, жыў у прасторнай прэрыі. Нездарма Чалавек-павук зьявіўся ў 60-х, калі індустрыялізацыя ўжо глыбока пранікла ў амэрыканскі соцыюм. Жыхары гарадоў-мурашнікаў працавалі на фабрыках ды ў офісах - у маленькіх штучных сусьветах, дзе ад чалавека патрабуецца толькі працоўная эфэктыўнасьць. Амэрыканцам зрабілася *духоўна цесна.* Чалавеку ад прыроды ўласьціва заглядацца на зоркі, але на небе мэгаполісу зорак ужо не было відаць. І людзі марылі пра тое, каб дасягнуць краю свайго вузкага бэтоннага сьвету - дахаў хмарачосаў. Таму Спайдэрмэн перасоўваецца па дахах Нью-Ёрку. Ён спускаецца ў бруд і гнільлё гораду, змагаецца там з агіднымі прадуктамі мэгаполісу, з тым сьветам, які мы самі сабе стварылі: злачынства квітнее на закінутых складах, у прагнілых сутарэньнях, там, дзе цёмна і міліцыя далёка. Гэткія страхі настолькі рэальныя ў нашым штодзённым жыцьці, што мы іх ужо папросту ігнаруем. І тады яны перабіраюцца ў нашыя сны: ты можаш касіць пад самаўпэўненага, але табе таксама вядома, што такое страх. Таму ты *хочаш* лётаць, *хочаш* зьбегчы са сваёй бэтоннай клеткі, *хочаш* пазбавіцца комплексаў. Ты *хочаш* быць Чалавекам-павуком. Сям'я, хатняя гаспадарка, заробак - усё пофігу, калі ты ведаеш, што горад твой. Ты апранеш маску - чырвоную, як агонь, і строй - сіні, як акіян тваёй душы, якая ў глыбіні прагне спакою і гармоніі. Узброены гэтымі знакамі, прапітаны магічнай энэргіяй, ты сыходзіш у ноч...




# HELLSPAWN

Сучасны чалавек, асабліва амэрыканец, церпіць ад недахопу рэальнасьці. Вакол яго - віртуальны сьвет дыснэйлэндаў і галівудаў. Мікі-маўсы, салодкая вата плюс амэрыканская мара... гэты плястмасавы "пазытыў" раздражняе несьвядомае, і яно патрабуе раўнавагі. Нечага, што кампэнсавала б тое бязьмежнае празакавае шчасьце. Амэрыканская поп-індустрыя адказала на гэтыя позывы несьвядомага своеасаблівым стварэньнем - Hellspawn.

У апошнія гады ён зьяўляецца каралём камэрцыйнай мастацкай культуры. Hellspawn ("нашчадак пекла") сёньня самы папулярны ў сьвеце коміксавы герой. Пра яго зьнялі фільм, яго стваральнікі ілюстравалі вядомы кліп KORN "Freak on a Leash". Пры жыцьці Hellspawn быў прафэсійным кілерам, якога забілі па загадзе ўласнага камандаваньня. Пасьля сьмерці ён па сваіх злых справах трапіў у пекла і быў прыняты д'яблам шостага кругу. Той надзяліў яго патаемнай сілай і выправіў назад на зямлю. У абяскроўленым гнілым целе Hellspawn жывуць чарвякі. Ня самае прыемнае відовішча, але хвала мастаку: нашчадак пекла цалкам пакрыты цёмна-чырвоным строем, чорнай маскай, чорнай накідкай і доўгімі ланцугамі. Так што ягоную замагільную сутнасьць даводзіцца разглядаць толькі ў рэдкіх выпадках. Затое вочы блішчаць містычным, сапраўды пякельным агнём.

Але што мы маем агульнага з гэткім зомбі? Нешта ж маем, калі купляем, чытаем і ходзім у кіно.

Насамрэч, усё як заўсёды ня так проста. Агідны звонку мярцьвяк - насамрэч справядлівы і высакародны.

Праўда, яго мэтады наўрад ці знайшлі б ухвалу ў міжнародным судзе па правах чалавека. У адным з амэрыканскіх нумароў часопіса "Spawn" ён наказвае бацьку, які зачыніў уласную дачку на тры дні ў пакоі і зьбіраўся яе зьбіць - усяго толькі за тое, што тая паламала тэлевізар. Hellspawn зьяўляецца ўначы. Ён заходзіць праз акно. Наступнай раніцай паліцыя знойдзе нявыхаванага бацьку на тэлевізары з праколатымі антэнай вачыма. "Кашмар!" - скажа цывілізаваны чалавек. Вядома. Але будзем шчырыя: калі бачыш зьдзекі таўстога алькаголіка з уласнага дзіцяці, тваё першае памкненьне - зусім не тэлефанаваць у паліцыю. І ня надта хочацца спакойна запэўніваць бацьку ў яго няправасьці. Табе карціць яго пакараць - менавіта тут, менавіта зараз. І нікуды ад гэтага пачуцьця не падзенесься, якім бы цывілізаваным ты ня быў. Нашае несьвядомае - страшны судзьдзя. Hellspawn зьдзяйсьняе гэты суд за нас.

СУПЭРГЕРОІ БУДУЦЬ ЗАУСЁДЫ, ТАМУ ШТО ЧАЛАВЕК СЛАБЫ. ВАРТА БЫЛО АДБЫЦЦА ПАДЗЕЯМ 11 ВЕРАСЬНЯ, ЯК УСЕ АДРАЗУ ЗРАЗУМЕЛІ, ШТО І СПАЙДЭРМЭН, ФІЗЫК-ТРЭЦЯКУРСЬНІК, І HELLSPAWN, ЗАБОЙЦА ЗЬ ПЕКЛА, НЕЯК АДРАЗУ ПАЖУХЛІ. СПАТРЭБІУСЯ ГЕРОЙ ДЛЯ НАДЗВЫЧАЙНЫХ СЫТУАЦЫЯУ. УЖО СЬПІСАНЫ У ЗАПАС CAPTAIN AMERICA, "АД ПРЫРОДЫ" ВЫДАТНЫ ВЫВЕДНІК, АДРАЗУ АДШУКАУ ТЫХ, ХТО СЁНЬНЯ ПАГРАЖАЕ АМЭРЫКАНІЗМУ. АУТАРЫ КОМІКСУ СЬЦЯМІЛІ, ШТО БІН ЛАДЭН – БЕЗДАКОРНЫ АНТЫГЕРОЙ. ХУДЫ, ЗЛАСЬЛІВЫ І З Д'ЯБАЛЬСКАЙ УСЬМЕШКАЙ, НЕХРЫСЬЦЬ, ДЫЙ НЕАКУЛЬТУРАНЫ ЁН НЕЙКІ У СВАІМ ТУРБАНЕ І ЖАНОЧЫМ ХАЛАЦЕ. КАРАЦЕЙ, НЯГОДНІК, ЯКІ ЗАМАХВАЕЦЦА НА ЧЭСНЫХ АМЭРЫКАНСКІХ РАБОЧЫХ. ВОСЬ ВАМ І ПОЛЕ ДЗЕЙНАСЬЦІ ДЛЯ CAPTAIN AMERICA НОВАГА ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ. КАЛІ ЗАУТРА НА ПЛЯНЭТУ НАПАДУЦЬ UFO, ПЕРШЫМ ЗМАГАЦЦА ЗЬ ІМІ ВЫЙДЗЕ СУПЭРГЕРОЙ. А ІМЯ УЖО ЯМУ ПРЫДУМЛЯЮЦЬ. СПРАВА НАВАТ НЯ У ІМЕНІ.



# ПАЙШЛІ ВЫ!




тэкст: Андрэй Гнёт

**Была ў мяне girlfriend. Так, звычайная ціхоня. У школе вучылася на 4–5, хадзіла ў гурток мяккай цацкі, малявала часам. Звычайная сям'я: двое дзяцей (яна – малодшая), тата (рабацяга) і маці (клапатлівая гістэрычка). Усё б добра, ды час не стаіць на месцы. Пераходны ўзрост, выпускны, акторскі факультэт... Ды ці мала мэтамарфозаў?**

І вось такая прыкрасьць: быць звычайнай - цяжка. Гэта як шэрая пляма на асфальце: можа, і заўважаць, але ў асноўным усе міма праходзяць - а так ня хочацца. У нагрузку абставіны: маўляў, вобраз ужо занадта прыстойны, амаль Фрося Бурлакова. У фільме весела, а ў жыцьці хочацца павесіцца на ўласнай касе. Дома штодзённыя ўрокі жыцьця: "не вытыркайся: узнагарода за паслухмянасьць - новыя боты Belwest". Плюс: усё што па тэлеку - "распуста", шмоткі зь фірмовых - "для ідыётаў", касмэтыку "прыдумалі прастытуткі", а "дома кепскаму не навучаць".

Кожны дзень. Кожны дзень... Кожны дзень? Кожны дзень! К-О-Ж-Н-Ы-ДЗ-Е-НЬ!!! Вы разумееце? КОЖНЫ.

Яны цісНуць, як кайданкі айчыннай вытворчасьці. Балюча, а зрабіць нічога нельга. Залежыш ад іх.

Любыя намёкі на new - у штыкі ("дахаты не вяртайся"). Як бяльмо на воку - узрост. Ня ясельны - амаль 20. Чужой галавой думаць складана. "Божа, я хіба што звар'яцею..."

Увечары яна прыйшла з кароткай lesbi-стрыжкай колеру сасьпелага мандарына і пірсынгам у яшчэ прыпухлай брыві. Твар намалявалі ў папулярным сярод вузкага кола салёне.

Гарачая гарбата і "прывет, ма". Інфаркт зьмяніўся рэвалюцыйным усьведамленьнем...

НОВАЯ АСОБА НАРОДЖАНАЯ. ВОСЬ Я!

Усё ж дзіўныя ў нас адносіны да саміх сябе. Ня НАС просяць нешта зрабіць за $, а МЫ просім $ за тое, што зрабілі. УЖО зрабілі!

Ведаў я дызайнэра аднаго. Як мог, рабіў сваю справу. Толькі ня думаў, што МОГ шмат. Першы заказ зь бюджэтам у сто бэ ацаніў як сэнс свайго жыцьця.

Два тыдні бяссоньня замест месяца, два макеты замест аднаго - бліскучая праца як вынік.

Грошы прымусілі доўга сябе чакаць. Прасіць ня ўмеў, бо досьведу не было. Парада сяброў - досьвед трэба набываць, а "ў нас усё так і робіцца". Размовы раз на тры дні з заказчыкам. Ні слова пра грошы... З абодвух бакоў. Першы цярпеў, іншы цярпеньне выпрабоўваў.

Гістарычная сустрэча адбылася праз 3 месяцы. Праз 14 тыдняў. Праз 98 дзён, калі хочаце. Вартая шкадобы паперка зеленаватага адценьня з тварам экс-уладара 1/4 сушы. Хіба вартая яна штосэкунднага самаедзтва, супярэчаньняў унутры і звонку, бясконцых тэлефанаваньняў на мабільнік?

Без гістэрыкі: разадраў і выкінуў. На вачах. ТЫ б зрабіў ня так - навошта такія радыкальныя пратэсты?

Даведка: яшчэ праз месяц сябрук-дызайнэр паступіў у штат канторы. Нешта кшталту ***-graphics. Ганарар адпаведны.

ТАМУ ШТО ЁН ЗРАЗУМЕЎ, ШТО МОЖА.

Учора я сышоў па-ангельску. Тое, што было для мяне такім дарагім, давялося пакінуць. Я ніколі больш ня сяду за гэты стол. (Я так доўга і беражліва абклейваў яго ўсялякай муцьцю, якая вельмі падабалася!) І мы ня будзем больш вырашаць глябальныя праблемы сучаснасьці ў імправізаванай курылцы, пазычаючы "тышчу" на таксі. Таму што я зараз буду іншым і перастану спазьняцца на апошні трамвай. Я адмовіўся ад таго, што любіў. Ува мне кіпіць новая сьвядомасьць. Таму што я

**П Р А Т Э С Т У Ю !**

# ЛЮСТЭРКА ВУЛІЦ

Прыкольна? Згодны. Ёсьць у нас людзі, якія на нешта здольныя.
19 красавіка гэтага году майстры вулічнай культуры зьбяруцца ўсе разам, каб прадэманстраваць народу сваё ўменьне. Тусоўкі гэткага маштабу для Беларусі наагул рэдкасьць, а дакладней – эксклюзіў.

*** 19 красавіка 2003 году. Менск. ПКіТ МАЗ. Фэстываль "Люстэрка вуліц".**

Дзею плянуецца распачаць на вуліцы. Перад палацам будзе ўсталяваная сцэна, і ў 10.00 першыя гукі ламанага біту ў шматкі разарвуць сонную цішыню суботняй раніцы.
Далей пачнецца самае цікавае. Сваё майстэрства пакажуць лепшыя ў Беларусі

- футбэгеры;
- гульцы ў фрызьбі;
- скейтэры;
- вэлятрыялісты;
- райтэры...

Апроч таго, маладым РЭП-камандам, якія не прайшлі папярэдні адбор фанаграмаў, будзе прадастаўленая магчымасьць зачытаць свае "цялегі" на вуліцы "масаваму спажыўцу". Ня будзе абдзелены ўвагай і брэйк-данс. Усё там жа, на сьвежым паветры, пройдуць адборачныя "батлы" пачаткоўцаў – нікому не вядомых пакуль бі-бояў. Лепшыя зь лепшых, пераможцы батлаў, возьмуць удзел у асноўнай дзеі. Яна пачнецца ў 14.00 у залі Палаца Культуры МАЗ. У конкурснай праграме фэсту выступяць РЭП-каманды, якія даслалі заявы на адрас аргкамітэту і прайшлі завочны адборачны тур фанаграмаў. Таксама на сцэне палаца бі-боям, якія перамаглі ў батлах некалькімі гадзінамі раней, будзе дадзеная магчымасьць даказаць, што яны лепшыя, у фінальнай бітве. Фэстываль "Люстэрка вуліц" – міжнароднае мерапрыемства: і ў журы, і на сцэне будуць працаваць хіп-хоп-галовы ня толькі зь Беларусі, але і з краінаў СНД.
Арганізатары фэстывалю – Моладзевы цэнтар вулічнай культуры "Street Masters" – абяцаюць забамбіць беспрэцэдэнтную акцыю, рэха якой адаб'ецца ва ўсіх закутках краіны і – далёка ці блізка – за яе межамі. Паглядзім, што з гэтага атрымаецца. Але ўжо само тое, што знайшліся людзі, якія гараць жаданьнем арганізаваць народу сьвята і аказаць дапамогу ўдзельнікам, вельмі ўхвальна.

DENVER

*Па ўсіх пытаньнях – да арганізатараў:*
streetlife@fromru.com
8(029)622-84-90



*" – Пятроў! Ты вывучыў на памяць песьню 2Pac "Changes"?*
*– Не, Марыванна...*
*– Сядай, два!"*
Сьмешна? Давай разьбірацца...

# Ё, ПРАФЭСАР!

■ тэкст: МІЦЯЙ

Ужо даволі доўгі час у некаторых унівэрсытэтах ЗША ладзяцца лекцыі на прадмет хіп-хопу. Часта іх чытаюць вядомыя рэпэры. Напрыклад, KRS-One напісаў кнігу "H.E.A.L.: Human Education Against Lies", на аснове якой і праводзіў свае "вучэньні". У разнастайных вышэйшых НУ Амэрыкі ў розныя пэрыяды ладзіліся лекцыі па філязофіі, гісторыі ды "правільным разуменьні" хіп-хоп культуры.
Цяпер жа хіп-хоп пранік і ў сярэднія навучальныя ўстановы Штатаў. У прыватнасьці, у Crenshaw High School /Лос Анджэлес/ зь нядаўняга часу праводзяцца ўрокі, на якіх настаўнікі аналізуюць лірыку Nas, The Geto Boys, Grandmaster Flash і інш. прадстаўнікоў хіп-хопу, праводзяць паралелі з больш "фарматнымі" літаратурнымі жанрамі.
Ёсьць і яўныя праціўнікі такіх заняткаў. Michelle Malkin /журналіст/: "Калі я вучылася ў школе, мы аналізавалі канфлікты "Чалавек супраць Асобы", "Чалавек супраць Прыроды", "Чалавек супраць грамадзтва", чытаючы Шэксьпіра. Мы выпісвалі цытаты з клясычных твораў у нашыя сшыткі, завучвалі на памяць вершы й маналёгі, якія прайшлі праверку часам... Зараз жа ў Crenshaw High School вучні аналізуюць канфлікты "Чалавек супраць Шлюхі" і слухаюць расповеды рэпэраў пра сутэнёраў". Жалезныя аргумэнты. Аднак, здаецца, тут папахвае нонканфармізмам.
Ва ўнівэрсытэце Пэнсыльваніі прафэсар Michael Eric Dyson чытае курс, прысьвечаны лірыцы 2Pac. "Ягоная музыка, філязофія, погляды на жыцьцё... – усё сьведчыць пра тое, што, нягледзячы на ягоную сьмерць, ён – адзін з тых, хто будзе вечна з намі, як Elvis ці John Kennedy," – кажа Michael. Ён напісаў кнігу пра легенду хіп-хопу – "Holler If You Hear Me: Searching Of Tupac Shakur". "Я недастаткова дасьведчаны, каб быць часткай Руху за Правы Грамадзтва, і занадта стары, каб быць часткай хіп-хопу. Таму я граю ролю мэдыятара", – кажа прафэсар.
Некаторыя аматары і крытыкі хіп-хопу лічаць, што сьлепа радавацца гэтым фактам нельга. "Кожны трэці будзе лічыць сябе прафэсіяналам, – кажуць яны. – І ў дадатак залішняя прапаганда хіп-хоп-культуры можа забіць яе першапачатковы дух". "Той дух даўно памёр, – адказваюць ім. – Але і ў будучыні, як і цяпер, у андэрграўндзе застануцца захавальнікі традыцыяў, якія не парушаць ідэяў і прынцыпаў хіп-хопу" .
Тым часам у сярэдняй школе №174 Менску настаўнік расейскай мовы, грунтуючыся толькі на сваім энтузіязме, правёў сярод дзяцей анкетаваньне па наступных пытаньнях:

*1. Ці ведаеце вы, што такое хіп-хоп?*
*2. Ці ведаеце вы, што такое брэйк-данс?*
*3. Ці ведаеце вы, што такое графіці?*
*4. Ці ведаеце вы, што такое рэп?*
*5. Як мяркуеце, што такое мастацтва?*
*6. Як лічыце, ці ёсьць хіп-хоп мастацтвам?*
*7. Як лічыце, ці ёсьць у хіп-хопу будучыня?*

Так што, магчыма, хутка нашыя дзеці на ўроках музыкі будуць вывучаць Run DMC, Grandmaster Flash, Big Daddy Kane, разважаць пра іх унёсак у разьвіцьцё хіп-хопу, а мы будзем глядзець па тэлевізіі "Калядныя сустрэчы "Касты", слухаць Wu-Tang і згадваць, зь якім недаверам чыталі артыкул у "CD" гадоў 20 таму.

# АД SEXII ДА SEXII

## студэнцкая прастытуцыя

Сяджу неяк у інтэрнэт-клюбе, шукаю рэфэрат. Нэрвы не вытрымліваюць: часу няма, нічога патрэбнага не знаходзіцца, ды яшчэ пастаянна выскокваюць банэры з парнухай. Адміністратар на ўсе мае прапановы зрабіць што-небудзь з гэтым доўбаным кампом і брудам на ім шчыра дзівуецца: "І што вам тут не падабаецца? Дзевачкі во якія! Оба-на, глядзіце!" Толькі хачу запярэчыць "я зараз не па тых справах", як - Матка Боска - з экрану ў адных міні-танга на мяне глядзіць яна - распаленая, уся ў жарсьці і ўжо гатовая да "гэтага" мая "родная" аднакурсьніца Танечка В. Дакладна яна: і радзімка на шчацэ, і завушніцы тыя самыя, ды і пагаворвалі пра яе ўсялякае неаднойчы.

■ тэкст: Алёша Сярых

Чым чалавек спачатку навучыўся гандляваць, дык гэта сваім тленным целам. Можа для каго і дзіва, але панятак "прастытуцыя" з самага пачатку меў нэгатыўны сэнс: prostitutio - ад лацінскага "апаганьваньне, абняслаўленьне". Сёньня гэта проста "асабістая справа кожнага". Тое, што паспалітае студэнцтва займаецца прастытуцыяй, стрыптызам і порна, не зьдзіўляе нікога. Шлюху без вышэйшай адукацыі зараз сустрэнеш рэдка. Прэстыж - ён і на стомэтроўцы прэстыж. Ды і не адныя мы ў сваім горы (?): паводле крыніцаў у інтэрнэце, у кансэрватыўнай Брытаніі 60% студэнтак - прастытуткі. Як бы скептычна ні ставіліся да самой фармулёўкі "крыніцы ў інтэрнэце", але праблема сапраўды актуальная: брытанскі ўрад адмовіў моладзі ў крэдытах, а вучыцца надта ж хочацца. Гадавую аплату за вучобу брытанскія дзяўчыны зарабляюць за пару месяцаў. Цяжка сказаць, ці дапамагае ўнівэрсытэцкі дыплём у ложку, але кажуць, што ён дае выхад на больш прыстойную кліентуру. Салёны дарагіх аўтамабіляў, валасатая рука з залатой пячаткай на тваіх каленках, аўра сэкс-бомбы з пухлымі вуснамі і ўзбуджальнымі буфэрамі - усё гэта прыцягвае студэнтачак як магніт. А чым яшчэ ў гэтай краіне займацца, не вучыцца ж?..

## МЕСЦА ДЫСЬЛЯКАЦЫІ НААГУЛ І Ў ПРЫВАТНАСЬЦІ

Калі прасачыць, дзе студэнцкая прастытуцыя распаўсюджаная больш, то няцяжка заўважыць, што ў авангардзе стаяць ВНУ гуманітарнага профілю.

Спрацоўвае адчувальны дэфіцыт у моцнай палове чалавецтва: калі на факультэце чатыры хлопцы, дык тут ваўком завыюць усе - ты вось паспрабуй выправіць свой лёс самастойна! Да таго ж, вучыцца ў гуманітарным непараўнальна лягчэй, чымся ў іншых ВНУ.

Народная мудрасьць кажа: вучоба ва ўнівэры - гэта для прыстойнай дзяўчыны пяць год вольнага часу, за якія яна нават мужа сабе знайсьці можа.

Асабліва ў гэтым пляне вылучаюцца БДПУ, БДУ і "кулёк". У "мэдзе" гэтую зьяву далікатна называюць "вывучэньнем фізіялягічных працэсаў на практыцы", але ў якасьці лябараторных жывёлак тут гатовая выступаць ня меншая колькасьць паненак.

Што да прыватнасьцяў, то кожны інтэрнат/студэнцкі гарадок/ВНУ мае ўласную стомэтроўку, дзе можна "зьняць" і "зьняцца". Ад арыгіналу яна адрозьніваецца меншай плошчай, нізкімі коштамі і кругласутачнай працай ("зьняць" можна і ў 8 раніцы, і ў 12 ночы). У некаторых месцах практыкуецца такі "макдрайв": кліент і "дзевушка" могуць дамовіцца не адыходзячы ад касы: ён - высунуўшы галаву з акна машыны, яна - з акна пакою. Натуральна, што разьмяшчаюцца стомэтроўкі паблізу інтэрнатаў: БДУшніцы і "тэхналягічкі" ходзяць на дынамаўскія "сьцякляшкі" "папіць піва" ("на чыпсы", "на семкі" і да т.п.), будучыя пэдагагіні прагульваюцца па вул. Валадзько і ўздоўж Чэрвеньскага рынку.

Маладыя людзі, якія ніколі нават не імкнуліся ў абітурыенты, выдатна ведаюць, якое месца ў сыстэме вышэйшай адукацыі Рэспублікі Беларусь адыгрывае ЦПС і дзе яно знаходзіцца. Пра Цэнтральнае п*дасховішча ведае ільвіная большасьць маладых "крутых", пэтэвэшнікаў і навучэнцаў тэхнічных ВНУ, дзе зь дзяўчынамі наагул праблема - едуць сюды ўсе, хто шукае плоцкіх уцехаў.

Колькасьць тых, якія захоўваюцца ў гэтым цэнтры і гатовыя па першым сыгнале рынуцца ў бой, можа вар'іравацца ад адной да тысячы - дамовіцца можна заўжды і выбар багаты: дзяўчынаў вельмі шмат, на розныя густы і запатрабаваньні, і амаль усе яны ня супраць. Але мусім прызнаць: ЦПС - гэта не бардэль, Мадам тут няма. Таму сам кліент прапаноўвае ехаць усім, хто выкажа зацікаўленасьць. Безумоўна, ён можа сутыкнуцца з тым, хто сапраўды "ня хоча", але такіх пераважная меншасьць.

Пачуць жа расповеды пра тое, як "засынала ў ложку з адным, а прачыналася зь іншым", можна на кожным паверсе ЦПС ледзь не праз адзін пакой.

Паліна К-віч, вельмі адукаваная ў справах сэксу дзяўчына, вырашыла да ўласнага 20-годзьдзя назьбіраць калекцыю "100 мужыкоў". Дзяўчына, трэба сказаць, трапілася мэтанакіраваная і вырашыла зьдзейсьніць сваю мару. І вось дзень Х на носе, а калекцыя няпоўная. У сябровак, якія назіралі за яе пакутамі, ужо закралася сумненьне. Дзе там! Па натоўпах хлопцаў, што завісалі ў пакоі, і крыках на калідоры "Зь мяне хопіць, я К-віч сёньня трахаць ня буду" ўсе зразумелі, як яе недаацэньвалі. Пацьвярджала пасьля гэта і яна сама.

Лора Палмэр, між іншым, таксама сваёму дзёньніку абяцала, што "калі я і буду займацца сэксам, то пастараюся атрымаць ад гэтага больш карысьці і задавальненьня, чым мае бацькі". Чым у яе ўсё скончылася, нагадваць ня трэба.

## НАВОШТА?

А проста так - варыянт №1: сумна, арганізм патрабуе і проста рабіць

няма чаго. У такіх выпадках дзяўчыны папросту высоўваюць галаву на калідор інтэрната і крычаць: "Хачу хоць якога-небудзь мужыка!" Пасьля выходзяць папаліць, і глядзі - празь некалькі хвілінаў зьяжджае на колькі дзён "на шашлыкі" зь першым сустрэчным. Калі куды-небудзь паехаць хочацца, а грошай няма - таксама не праблема: варта патусавацца каля машынаў, прыпаркаваных ля інтэрната, выбраць сабе якую - і наперад!

Варыянт №2 - зарабіць грошы/шмоткі/мабілу/аплату за мабілу/інш. Калі кліент пастаянны, то і пэрспэктывы на будучыню зьяўляюцца. Часьцей, вядома ж, кідаюць.



Правінцыйная дзяўчына Юлія В. паступіла ў адну зь менскіх ВНУ. Бацькі засялілі малую ў інтэрнат, далі грошы на вучобу і зьехалі. Тая пажыла колькі дзён і хутка заўважыла, што грошы "неяк разышліся". Не раздумваючы доўга, Юлія заяўляе суседкам па пакоі, што зьбіраецца зарабіць. Спэцыфіка яе працы вам ужо зразумелая.

Што да грошай, то спачатку нехта даваў ёй за працу $20, пасьля такса зьнізілася да $10. Потым Юлія сама ўвайшла ў смак і прыносіла ад кліентаў толькі цукеркі і касмэтыку. Аднойчы яна вярнулася пасьля трохдзённага загулу і ўсё, што змагла сказаць, было "нават не пакармілі, сукі".

Варыянт №3 - празь пятага ці дзясятага знайсьці сваё каханьне і выйсьці замуж. У выпадку пасьпяховасьці пражэкту, кажуць спэцыялісты, лёс сям'і перадвызначаны: пры першай жа нагодзе мужык папракне, маўляў, дзе б ты, б*дота, была зараз, каб я цябе ня ўзяў. Але варыянт такі распаўсюджаны збольшага сярод іншагародніх: галоўная мэта навучаньня большасьці зь іх - пасьпяхова пабрацца шлюбам зь менчуком. А там!..

## ДЗЯКУЮЧЫ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ І НАВАТ ТАК

Таня Зайцава, галоўная "інтэрдзевачка" СССР, памылялася, калі казала, што для такой сацыяльнай зьявы, як прастытуцыя, законаў і артыкулаў не прыдумалі.

Дзякуючы пранікненьню камэрцыі ў інтым прастытуцыю ў Беларусі прызналі і пачалі змагацца. Былі выдадзеныя некалькі законаў, у Адміністрацыйным кодэксе ёсьць арт.162-1 "Занятак прастытуцыяй". На першы раз ён прадугледжвае папярэджаньне ці накладаньне штрафу ў памеры 10 мінімальных заробкаў (блізу BRB 175 000). Тыя ж дзеяньні, зьдзейсьненыя цягам году паўторна (хутчэй за ўсё, калі трапілася паўторна, бо "два разы на год" і прастытуцыяй няёмка называць) - штраф у 20 мінімалак. Ёсьць яшчэ пастанова беларускага ўраду за пазамінулы год "Аб дзяржаўнай праграме комплексных мераў па супрацьдзеяньні гандлю людзьмі і распаўсюдзе прастытуцыі на 2002-2007 гг.". Хіба што там напісана нешта сакрэтнае, бо знайсьці яе мы так і ня здолелі.

Нягледзячы на ўсе гэтыя пастановы, Беларусь знаходзіцца на трэцім месцы сярод краінаў СНД па колькасьці хворых на ВІЧ (афіцыйна іх 4 548, а неафіцыйна - каля 13 000). А калі дадаць сюды тыя 400 000 беларусаў, якія штогод хварэюць на вэнэрычныя захворваньні... Па Менску на пранцы і іншую трасцу кожны год хварэе 8 600 студэнтаў. Пакуль...

Маралізаваць на тэму ня мае сэнсу - агульнавядома, што выпускныя ў школах акрамя бадуна заканчваюцца і мінэтам, а на адзін раддом прыпадае 12 выпадкаў прыроджанага сыфілісу. Калі дарослыя кажуць пра тое, што ніякіх каштоўнасьцяў у моладзі не засталося, то настойліва раім ім паглядзець на сваіх аднагодкаў.

## КЛІЕНТ-ДАЦЭНТ

Студэнцкай прастытуцыяй карыстаюцца і выкладчыкі - сталыя і дасьведчаныя пэдагогі, некаторыя зь якіх у працоўны час прэтэндуюць на ролю "другіх бацькоў" студэнтак, а па-за працай могуць папросту, па-бацькоўску паймець іх у прамым сэнсе. За тое, што далі "бясплатную кансультацыю", за "дапамогу ў працы над курсавой", за "спрыяньне ў засяленьні ў інтэрнат". "Прасьцей раз аддацца і пасьля мець гарантаванае месца-ложак у інтэрнаце, чым мыкацца і прасіць, - упэўненая Вольга Е., пяцікурсьніца, якая са спакойным выглядам распавядае пра тое, як старшыня студэнцкага прафкаму прапанаваў ёй пераспаць "за абшчагу". - Затое я дасягнула сваёй мэты".

Прастытуцыя можа ладзіцца і больш прыхавана, з абсалютна добрымі намерамі. Першакурсьніцы-гуманітарыі з году ў год слухаюць настаўленьні куратараў, якія адным зь першых культпаходаў для групы "зялёных" вясковых дзяўчынак абіраюць візыт да будучых міліцыянтаў, пажарных, вайскоўцаў, - галоўнае, каб з "сапраўднымі мужчынамі". Для куратараў насамрэч важна, каб дурніцы-першакурсьніцы "не бадзяліся абы з кім і абы-дзе". Спадзеў на тое, што адным шырокім жэстам можна вырашыць дэмаграфічную праблему ў краіне, марны. Ён - які бачыць дзяўчынаў зрэдку і здалёк - і Яна - якая прывыкла, што за вайскоўцам як за каменнай сьцяной - у выніку пагулянак "пад луной" здольныя толькі на пару "перапіхнуцца" - і адразу разьбягаюцца. Рэдка, але здараецца, што замест каханьня ў духу французскіх любоўных раманаў у каго-небудзь зь іх аказваецца "французскі насмарк". Так і заканчваюцца патугі куратараў, дзеяньні якіх Крымінальны кодэкс трактуе як "зводніцтва".

## FINITA LA COMEDIA

Шчасьлівыя канцоўкі ў выглядзе вясельляў часам здараюцца, але гэта хутчэй выключэньне зь вялікай колькасьці правілаў. Дзяўчаты-лімітчыцы вяртаюцца дахаты з дыплёмам аб заканчэньні ВНУ, непамерным сэксуальным досьведам і адчуваньнем сябе ў якасьці сэкс-бомбы. Вось каму сапраўды будзе што ўзгадаць пад старасьць!

Адзінкам удаецца зрабіць кар'еру прафэсійных путанаў і выйсьці на сапраўдную стомэтроўку. Вышэйшая адукацыя, веданьне замежных моваў, формы Памэлы Андэрсан і зьнешнасьць Шэран Стоўн толькі спрыяюць працы.

А часьцей за ўсё канец аказваецца пачаткам - хаджэньняў па гінэколягах, блуканьняў па Прылуках ці нават прыводаў у міліцыю.

# Самая брыдкая жанчына ў сьвеце

Вольга Такарчук



Ён ажаніўся з самаю брыдкаю жанчынаю ў сьвеце. Спэцыяльна паехаў па яе ў Вену. Нічога не плянаваў наперад, раней яму не прыходзіла ў галаву, што ён мог бы зь ёю пабрацца. Але калі ўбачыў яе, калі стрываў першы ўдар узрушэньня, пасьля ўжо ня мог адарваць ад яе позірку. Яна мела вялікую галаву, усю ў нарасьцях і пукатасьцях. Адразу пад нізкім сьпярэшчаным зморшчынамі ілбом тырчэлі малыя, вечна вільготныя вочы, што здалёк нагадвалі шчыліны. Нос здаваўся зламаным у шматлікіх месцах, а яго кончык быў сінім і парослым рэдкаю шчэцьцю. І агромністыя апухлыя вусны, заўсёды адкрытыя, мокрыя, а за імі - надзвычай вострыя зубы. І ў дадатак, нібы гэтага было замала, яе твар парос даўгім, рэдкім шаўкавістым валосьсем.

Упершыню ён убачыў яе, калі яна выйшла з-за кардонных дэкарацыяў вандроўнага цырку, каб паказацца гледачам. Крык зьдзіўленьня й агіды пракаціўся над галовамі сабраных і ўпаў каля яе ног. Мабыць, яна ўсьміхнулася, але выглядала гэта сумнаю грымасай. <...>

Пасьля даўгой, напоўненай зьдзіўленьнем паўзы нехта нарэшце крыкнуў:

- Скажы нам што-небудзь!

Яна паглядзела ў натоўп, у месца, адкуль зьявіўся голас. Шукала таго, хто гэта сказаў, але тады з-за кардонных кулісаў выбегла тоўстая кабета-канфэрансье й адказала за Самую Брыдкую Жанчыну Ў Сьвеце:

- Яна не гаворыць.

- У такім разе ты раскажы яе гісторыю, - ізноў выказаў сваё жаданьне голас, і кабета-канфэрансье адкашлялася й пачала гаварыць.

Калі потым - як вядомы цыркавы імпрэсарыё - ён піў зь ёю гарбату каля бляшанай печкі, што ацяпляла зь сярэдзіны цыркавы фургон, ён падумаў, што яна далёка не дурніца. Вядома ж, яна ўмела гаварыць, і гаварыць дарэчы. Ён глядзеў на яе, вывучаючы, змагаючыся з уласным захапленьнем гэтым выбрыкам прыроды. Яна зірнула на яго й сказала:

- Вы спадзяваліся, што мае словы будуць такімі ж дзіўнымі й агіднымі, як мой твар, так?

Ён прамаўчаў.

Яна піла гарбату па-расейску - налівала яе з самавара ў сподачкі й загрызала кожны глыток кавалкам цукру.

Досыць хутка ён заўважыў, што яна гаварыла на многіх мовах, але, здаецца, ні на адной добра. Кожную хвіліну пераходзіла з адной на другую. У гэтым не было нічога дзіўнага - зь дзяцінства яна выхоўвалася ў цырку, у міжнароднай трупе рознага кшталту монстраў. І заўсёды на новым месцы.

- Ведаю, пра што вы думаеце, - сказала яна зноў, гледзячы на яго сваімі прыпухлымі маленькімі вачыма жывёліны.

І, памаўчаўшы, дадала:

- Той, хто ня меў маці, ня мае й матчынай мовы. Я карыстаюся многімі, але ніводная зь іх ня ёсьць маёй.

Ён не наважыўся адказаць. Раптам яна пачала раздражняць яго - немаведама чаму. Разумнічала, была надта ўжо рэальнаю, канкрэтнаю; не на тое ён спадзяваўся.

Калі ён разьвітваўся, яна - зусім нечакана - падала яму руку для пацалунку, вельмі жаночым жэстам. Жэстам дамы. Абсалютна прыгожую руку. Ён нахіліўся над ёй, але нават не дакрануўся да яе вуснамі.

<...> Некаторыя потым ужо апавядалі гэтую гісторыю як гісторыю нешчасьлівага каханьня. Быццам ён глядзеў сэрцам у яе сэрца, быццам пакахаў у ёй прыўкраснага анёла з брыдкім тварам. Нічога такога. У першую ноч пасьля спатканьня ён проста ўяўляў сабе, як гэта - кахаць такую істоту, цалавацца зь ёю, здымаць зь яе адзеньне.

Ён круціўся вакол гэтага цырку яшчэ колькі тыдняў. Ад'яжджаў і зноўку вяртаўся. Увайшоў у давер да дырэктара. Арганізаваў ім кантракт у Брне, куды зь імі паехаў і дзе цырк прызнаў яго сваім чалавекам. Яму дазволілі прадаваць квіткі, потым ён замяняў тоўстую кабету-канфэрансье, і, трэба сказаць, рабіў гэта добра. Ён разаграваў публіку перад падняцьцем абы-як размаляванай заслоны.

- Заплюшчыце вочы, - крычэў ён. - Асабліва жанчыны й дзеці, бо датклівым вачам цяжка вытрымаць брыдоту гэтай пачвары. Хто хоць аднойчы ўбачыць гэты выбрык прыроды, ужо ня зможа заснуць спакойна, будзе абуджацца ў страху. Магчыма, страціць веру ў Творцу...

Тут ён павышаў голас, і фраза выглядала няскончанаю, хоць направду такою не была, - проста ён ня ведаў, што сказаць яшчэ. Яму здавалася, што само слова "Творца" выставіць усё ў патрэбным сьвятле. Насамрэч ён думаў, што гэты Творца, у якога іншыя мусілі страціць веру, вызначыў яго, падарыўшы такі шанец - Самую Брыдкую Жанчыну Ў Сьвеце. Дурні змагаліся за найпрыгажэйшых, страляліся ў двубоях. Ідыёты марнавалі маёнткі на прыхамаці жанчынаў. А ў яго - наадварот: Самая Брыдкая сама гарнулася да яго, як сумная свойская жывёліна. Была інакшая, чым усе. Пагатоў, давала магчымасьць зарабіць. Пабраўшыся зь ёю, ён стаўся б абраным, стаўся б асаблівым. Меў бы нешта, чаго ня маюць іншыя. <...>

Калі яго ахопліваў неспакой, ён казаў ім усім, што зьяжджае па важных справах, што мае сустрэцца з тым альбо гэтым - і называў нейкае чужое ці наадварот добра знаёмае прозьвішча - што наладжвае кантакты, вядзе перамовы. Ён чысьціў свае высокія боты, мыў найлепшую кашулю й рушыў наперад. І ніколі не адыходзіў далёка. Спыняўся ў суседнім мястэчку, скрадаў у кагосьці пулярэс і піў. Але й тады ня быў ад яе вольны, бо пачынаў апавядаць пра яе, быццам ня мог безь яе абыйсьціся, нават падчас такіх уцёкаў.

Дзіўна, але яна сталася яго найкаштоўнейшым скарбам. Ён мог плаціць за віно яе брыдотай. Больш за тое, апісваючы яе твар, ён зачароўваў маладых гожых жанчынаў, якія прасілі апавядаць

© Пераклаў з польскай Андрэй Хадановіч паводле: *Olga Tokarczuk. Gra na wielu bebenkach. Walbrzych, 2001*

пра яе нават тады, калі ўжо ляжалі пад ім голыя. <...>

Калі скончыўся іх першы супольны сэзон і цырк павольна вярнуўся ў Вену на штогадовую зімоўку, ён зрабіў ёй прызнаньне. Яна залілася румянцам, затрымцела. Ціха сказала "так", а пасьля далікатна паклала галаву яму на плячо. Ён адчуў яе пах - мыльны, мяккі. Вытрымаў хвіліну, а потым адсунуўся. І пачаў узрушана разгортваць перад ёю пляны іх супольнага жыцьця. Яны паедуць туды, паедуць сюды. Яна суправаджала позіркам яго перасоўваньні па пакоі й сумна маўчала. Нарэшце ўзяла яго за руку й сказала, што хацела б дакладна наадварот - каб яны aселі недзе ў глушы, каб нікуды ня мусілі езьдзіць, ні з кім ня мусілі бачыцца. Што яна гатавала б, што ў іх былі б дзеці й сад.
- Ты б ня вытрымала, - абурыўся ён. - Ты выхоўвалася ў цырку. Ты хочаш, патрабуеш, каб на цябе глядзелі. Бяз позіркаў людзей ты памерла б.
Яна нічога не адказала.

Яны ўзялі шлюб на Каляды, у малым касьцёліку. Ксёндз, які іх вянчаў, ледзь не самлеў. У яго дрыжэў голас. Гасьцямі былі адно людзі з цырку, бо ён сказаў ёй, што ня мае сям'і, што ён таксама самотны, як і яна.
Калі ўсе ўжо хісталіся на крэслах, калі спаражнілі ўжо апошнія пляшкі й прыйшла пара ісьці ў ложак (нават яна, крыху ап'янелая, цягнула яго за рукаво), ён затрымліваў іх, пасылаў па віно. Ня мог упіцца, хоць хацеў. <...>
- Хадзем ужо, каханы, - шаптала яна яму на вуха
А ён быццам трымаўся за край стала, быццам быў прымацаваны да яго нябачнымі кнопкамі. Так што самыя ўважлівыя маглі б падумаць, што ён баіцца аголенай інтымнасьці зь ёю, прымусовай шлюбнай блізкасьці. Ці так напраўду было?
- Дакраніся да майго твару, - прасіла яна потым у змроку, але ён не зрабіў гэтага. Ён трымаўся над ёю на руках, так што бачыў адно яе сылюэт, сьвятлейшы за цемру ў пакоі, размытую пляму без выразных абрысаў. А пасьля ён заплюшчыў вочы - гэтага яна ўжо не магла ўбачыць - і авалодаў ёю, як любою іншаю жанчынай, бяз думак, як звычайна.

Наступны сэзон яны пачалі ўжо самастойна. Ён загадаў ёй зрабіць колькі здымкаў і цяпер рассылаў іх па ўсім сьвеце. Адказы прыходзілі тэлеграфам. Яны мелі мноства выступаў. Езьдзілі першаю клясай. Яна ніколі не здымала капелюша з шэрым, цёмным вэлюмам, і толькі праз яго глядзела на Рым, Вэнэцыю й Элізэйскія Палі. Ён купіў ёй колькі сукенак і сам шнураваў ёй гарсэт, так што, ідучы людными вуліцамі эўрапейскіх гарадоў, яны выглядалі нармальнаю парай. Але й тады - у тыя найлепшыя для іх часы - ён таксама мусіў уцякаць. Такі ўжо ён быў - вечны ўцякач. Зьнячэўку ў ім уздымалася нейкая паніка, нейкі нязносны тупат, ён пачынаў пацець, задыхацца - і тады ён браў пачак банкнотаў, хапаў капялюш і зьбягаў па сходах, беспамылкова знаходзячы дарогу да партовых прытонаў. Тут ён нечакана рабіўся мяккім, а яго твар - азызлым, валасы кудлаціліся, і схаваная пад набрыялінёнымі пасмамі лысіна бессаромна паказвалася на сьвет. Ён піў радасна й нявінна ды нешта мармытаў, а пасьля дазваляў біць сябе па руках нейкай разьятранай брудэрцы.

Калі Самая Брыдкая ўпершыню пачала яго дакараць, ён ударыў яе ў жывот, бо нават такім чынам баяўся дакрануцца да яе твару. Ён <...> атрымаў ліст ад прафэсара мэдыцыны зь Вены і цяпер прадстаўляў сваю жонку навуковаю мовай.
- Шаноўныя калегі, перад вамі выбрык прыроды, мутант, памылка эвалюцыі, згубленае зьвяно. Такія экзэмпляры сустракаюцца вельмі рэдка. Імавернасьць гэтага ня большая за тое, што ў гэтую хвіліну сюды ўпадзе мэтэарыт. Вось жа, вы маеце магчымасьць жыўцом назіраць мутацыю.
Вядома ж, яны прыходзілі ва ўнівэрсытэт да прафэсара. Там іх разам здымалі: яна сядзела, ён стаяў за ёю й трымаў руку ў яе на плячы.
Аднойчы, калі яе мералі, прафэсар перакінуўся зь ім параю словаў.
- Цікава, - сказаў ён, - ці гэта спадчынная мутацыя. Ці ня думаеце вы пра дзіця? Ці ўжо спрабавалі? Ці вашая жонка...? Ці вы ўвогуле...?

У хуткім часе, быццам бы бяз сувязі з тою асьцярожнаю размовай з прафэсарам, яна сказала яму, што зацяжарала. З таго часу ён пачуваўся дваіста. Яму хацелася, каб яна нарадзіла дзіця, такое самае, як яна, - тады б яны мелі яшчэ больш кантактаў, яшчэ больш запрашэньняў. У выпадку чаго ён быў бы забясьпечаны на ўсё жыцьцё, нават калі б зь ёю нешта здарылася. Можа, зрабіўся б знакамітым? Але адразу ж зьяўлялася панічная думка, што дзіця будзе монстрам. Што ён гатовы вырваць яго зь ейнага чэрава, адно каб абараніць ад гэтай атруты ў крыві, што нясе ў сабе зло. І яму сьнілася, быццам ён сам ёсьць гэтым сынам у ейным чэраве, увязьнены там, аддадзены на яе змрочную ласку. І быццам яна, увязьніўшы яго там, паволі зьмяняе яму твар. <...> Па абуджэньні, спатнелы, ён маліўся, каб здарыўся выкідак.
Яе жывот рабіў гледачоў сьмялейшымі. Яны лягчэй выбачалі ёй пачварную брыдоту. Цяпер ёй задавалі пытаньні, на якія яна, зьбянтэжаная, адказвала ціха й няўпэўнена. Блізкія знаёмыя ішлі ў заклад, якое народзіцца дзіця і якога полу. Яна ўспрымала гэта прыязна.
Вечарамі яна шыла распашонкі.
- Ведаеш, - сказала яна, зьнерухомеўшы на хвілю й утаропіўшыся позіркам у нейкую далёкую кропку, - людзі такія слабыя, такія самотныя. Шкада мне іх, калі яны сядзяць перада мною, углядаюцца мне ў твар. Быццам бы самі яны пустыя, быццам бы павінны на нешта наглядзецца, нечым напоўніцца. Часам я думаю, што яны мне зайздросьцяць. Я, прынамсі, нейкая. А яны - зусім без чагосьці выключнага, бязь якасьцяў.
Ён скрывіўся, пачуўшы гэта.
Яна нарадзіла ўначы, бяз клопатаў, паціху, як жывёліна. Акушэрка прыйшла адно каб перарэзаць пупавіну. Ён даў ёй пачак банкнотаў, каб ні пра што нікому да часу не казала. Пасьля запаліў усё сьвятло, каб магчы ўсё дакладна разгледзець. Яго сэрца калацілася. Дзіця было страшнае, яшчэ горшае ад маці. Ён мусіў заплюшчыць вочы, бо страўнік падскочыў яму да горла. Толькі пасьля, праз пэўны час, ён пераканаўся, што, як яна й казала, гэты нараджэнец - дзяўчынка.
Тады ён выйшаў у цёмны горад, гэта была Вена альбо Бэрлін. Валіў дробны, мокры сьнег. Боты жаласьліва хлюпалі па бруку. Ізноў пачуваўся дваіста - цешыўся й пакутаваў.
Піў і заставаўся цьвярозы. Мроіў і баяўся. Калі вярнуўся праз колькі дзён, меў ужо гатовыя пляны, што да маршруту іх турнэ й прамоцыі. Напісаў ліст прафэсару. Запрасіў фатографа, які дрыготкімі рукамі штохвілі запальваў спалох, каб увечніць у зыркім бляску пачварную брыдкасьць абедзьвюх істотаў.
Хай толькі скончыцца зіма, хай зацьвітуць крокусы, хай высахне брук вялікіх гарадоў. Пецярбург, Бухарэст, Прага, Варшава, і далей, далей, ажно ўрэшце Нью-Ёрк і Буэнас-Айрэс... Хай толькі неба разгорнецца над зямлёю вялікім блакітным ветразем. Увесь сьвет захопіцца брыдотаю яго жонкі й дачкі, упадзе перад імі на калені.



Мабыць, менавіта тады ён упершыню пацалаваў яе ў твар. Ня ў вусны, не, але ў лоб. Яна паглядзела на яго прасьветленым, іншым, амаль што чалавечым позіркам. Менавіта тады яму ў галаву прыйшло пытаньне, якога ён ня мог ёй задаць. "Хто ты?", "Хто ты?", "Хто ты?" - паўтараў ён сабе й нават не заўважыў, як пачаў яго ў думках задаваць іншым, і нават самому сабе перад люстэркам падчас галеньня. Нібыта яму адкрылася нейкая таямніца - што ўсе навокал носяць маскарадныя строі. Што гэтыя чалавечыя твары - маскі, быццам бы ўсё жыцьцё - вялікі карнавал у Вэнэцыі. Часам ён уяўляў, напіўшыся, - бо ў цьвярозым стане не дазваляў сабе такіх дурнотаў - што ён зрывае гэтыя маскі, і яны зь лёгкім трэскам клеенай паперы агаляюць... Але што? Ён ня ведаў. <...>
Але раньняю вясной прыйшла гэтая страшная эпідэмія гішпанкі, і абедзьве захварэлі. Яны ляжалі побач распаленыя, цяжка дыхаючы. Час ад часу ў нейкім панічным парыве яна прытуляла дзіця да сябе. Трызьнячы, спрабавала яго карміць, не разумеючы, што дзіця ня мае сілы смактаць. Што яно памірае. А калі яно ўрэшце памерла, ён далікатна забраў яго й паклаў на край ложка. Запаліў цыгару.
Тае ночы Самая Брыдкая на хвіліну апрытомнела, але адно каб зайсьціся ў роспачным галашэньні. Ён ня мог гэтага вытрываць - гэта быў голас самой ночы, цемрадзі, чорнай гушчэчы. Ён затыкаў вушы, а потым ня вытрымаў, схапіў капялюш і выбег з дому, але не адыйшоў далёка. Да ранку ён хадзіў пад вокнамі свайго жытла й такім чынам нібы дапамагаў памерці і ёй. Гэта адбылося хутчэй, чым ён мог спадзявацца.
Ён замкнуўся ў іхнай спальні й глядзеў на абодва целы, надзіва цяжкія, надзіва нязграбныя, нечакана матэрыяльныя. Са зьдзіўленьнем заўважыў, як моцна яны прагіналі матрац. Ён абсалютна ня ведаў, што яму цяпер рабіць; ён толькі пазваніў прафэсару і, п'ючы проста зь пляшкі, назіраў, як змрок сьцірае абрысы абедзьвюх нерухомых постацяў на ложку.
- Вы павінны іх выратаваць, - мармытаў ён, благаючы, калі прафэсар прыехаў і рабіў прафэсійны агляд трупаў.
- Вы што, звар'яцелі? Яны ж мёртвыя, - адказаў той раздражнёна.
Пасьля прафэсар падсунуў яму нейкую паперу, і ён падпісаў яе праваю рукой, леваю беручы грошы.
Перш чым яшчэ таго самага дня зьнікнуць недзе ў порце, ён дапамог прафэсару перавезьці целы фурманкаю ва ўнівэрсытэцкую клініку. Там праз нейкі час зь іх таемна зрабілі чучалы.
Доўга, амаль дваццаць год, яны стаялі ў халодных сутарэньнях будынку, пакуль не прыйшоў лепшы час і іх не далучылі да вялікай калекцыі габрэйскіх і славянскіх чарапоў, дзьвюхгаловых немаўлятаў, рознага кшталту спарышоў. Іх і цяпер можна ўбачыць у зборах Patalogisches Museum: маці й дачка, застылыя ў поўных велічы паставах, шклянавокія, стаяць, як няўдалы пачатак новага віду.



добрая міна пры дрэннай гульні

# УЛАДАР ПЯРСЬЦЁНКАЎ

**Памятаеш, як чакалі прэм'еры "Брацтва Пярсьцёнка"? Добра, сам ты не чакаў, але чуў пра гэта з усіх бакоў: ці атрымаецца экранізацыя, што зробіцца з культавым тэкстам? Талкіенутыя чакалі з садысцкім нецярпеньнем і пасьля фільму смачна пляваліся. "Недалёкія" (ралевікі, памяркоўныя талкіеністы, "рыцары") чакалі ня так напружана, чакалі меншага, а ў выніку атрымалі большае - па вялікім рахунку, фільм шмат каму зь іх спадабаўся. Трэцяя група - людзі ад 9 да 45 год зь сярэднім IQ і стабільнай псыхікай - атрымала цукерку з батальным начыньнем і ў прыгожай абгортцы новазэляндзкага Міжзем'я. І набор "Зорачкі" ў нагрузку.**

тэкст : Аліса Ўондэр

Пэўна, з разьлікам на нашую пражэрлівасьць усе тры часткі трылёгіі здымаліся бесьперапынна, за паўтара гады працы арміі кінапрафэсіяналаў і статыстаў. Такі фармат - трылёгія - асьцярожным не назавеш, бо, пачаўшы экранізаваць Толкіена, Джэксан&Со шмат чым рызыкавалі: прэстыжам кінакампаніяў, якія забашлялі на здымкі, імем рэжысэра, незаплямленым ані славай, ані ганьбай, і, галоўнае, money... "На карту былі пастаўленыя вялікія грошы, таму я вельмі хацеў стварыць фільм, які мог бы паглядзець просты чалавек з вуліцы - той, хто нічога ня ведае пра Толкіена, ніколі не чытаў "Уладара Пярсьцёнкаў" і ўсё роўна атрымаў бы задавальненьне" (Пітэр Джэксан).
Але ці такія мы, простыя гледачы, усёедныя, каб апантана хАваць варыва містэра Джэксана?
"Дзьве вежы", як і "Брацтва", пакідаюць неадназначнае ўражаньне. З аднаго боку, усе стратэгіі камэрцыйнага кіно тут відавочныя: бабкі, раскрутка, імёны і г.д. Але паўстае цалкам натуральнае пытаньне: ці варта лічыць трылёгію ўсяго толькі чарговым камэрцыйным праектам? Вядома, фільм папсаваты. Вядома, танны пафас скразіць у кожнай фразе. Так, героі плоскія і прадказальныя... Але трэба зрабіць папраўку, па-першае, на сам жанр фэнтэзі, а па-другое - на тое, што фільмы ставіліся па кнігах Толкіена.




Літаратура фэнтэзі мала зважае на псыхалёгію пэрсанажаў, аддаючы перавагу сюжэту, дэкарацыям і Ідэі - Дабро абавязкова пераможа Зло. Чаго яшчэ чакаць ад казкі? Сапраўды, як бы гэта выглядала, калі б Гэндальф пачаў вагацца паміж Саўронам ды Фродам, думаючы: а ці такі я "беленькі", якім мяне лічаць усе гэтыя недамеркі? Але тут і хаваецца пастка для рэжысэра: тое, што выглядае ярка на паперы, на экране губляецца, робіцца трывіяльным на фоне сакавітых дэкарацыяў. Для рэжысэра, які адважваецца экранізаваць раман фэнтэзі, існуе адпаведная рызыка пер态варыць прыгожую гісторыю ў набор двухмерных малюнкаў з такімі ж плоскімі героямі і сюжэтам. Тая ж праблема і з экранізацыяй кніг менавіта Толкіена - яны ня лезуць у фармат. Толкіен пабудаваў Сьвет, прапісаны да дробязяў, лягічна скаардынаваны і да таго ж самадастатковы. Увасабленьне гэтага сьвету, створанага фантазіяй прафэсара, патрабавала зладжанай працы сотняў вузкапрофільных спэцыялістаў: ад збраяроў да экспэртаў па лічбавых тэхналёгіях. Калі ўжо ня згадваць пра абойму кіназорак і больш за 26.000 статыстаў.
Джэксан падыйшоў да справы зь вялікай асьцярожнасьцю: візуалка вабіць зрок, гук нейкі звышнатуральны, музыка хоць і без прэтэнзіяў, але якасная. Усё, што датычылася дробязяў "сьвету па Толкіене", было выканана зь ювэлірнай дакладнасьцю: частка зброі для баталіяў зробленая з выкарыстаньнем сярэднявечнай тэхнікі ручной коўкі, кожны меч упрыгожаны выгравіраваным



надпісам на адной з моваў Міжзем'я, на кальчугі пайшло больш як 12.000.000 гумовых кольцаў, расфарбаваных пад мэтал. Часам даходзіла да абсурду: каб надаць дзеі большае падабенства да кніжных апісаньняў, дэкарацыі Эндарасу, сталіцы Рохану, ставіліся на працягу шасьці месяцаў. Пасьля заканчэньня працы над эпізодамі з Роханам спатрэбілася яшчэ паўгода, каб аднавіць першапачатковы выгляд мясцовасьці.
І ўсё тое - дзеля дасягненьня кніжнага "абсалюту". Гэта варта мець на ўвазе, перад тым як кідаць іранічнае: "Нічога агульнага з САПРАЎДНЫМ "Уладаром Пярсьцёнкаў".
"УП" прыжыцьцёва робіцца клясыкай фэнтэзі. Роля гэтага фільму ў сучасным кіно набліжаецца да той, якую выконвалі калісь "Зорныя Войны". Абодва праекты зробленыя па апошнім слове тэхналёгіі свайго часу, абодва шматсэрыйныя і грузныя, і іх наратыў пабудаваны фрагмэнтарна, але з фрагмэнтаў складаецца Карціна. Карацей, нішто не замінае ім быць культавымі. Нягледзячы на ўсю сваю папсовасьць.



## КІНГ КОНГ/KING KONG

Рэжысэр: Мэрыян К. Купэр, Эрнст Б. Шодсак. У ролях: Робэрт Армстранг, Брус Кэбат, Фрэй Урэй. ЗША, 1933, 105 хв.

Дзесяцігодзьдзі пасьля "Конга" ніхто ня мог дасягнуць такога ж посьпеху ў стужках пра монстраў і татальныя разбурэньні.

**Зьмест:** Кінагрупа на высьпе Чэрапа здымае "фільм". У адну зорную ноч абарыгены выкрадаюць сымпатычную бляндынку, каб прынесьці яе ў ахвяру мясцоваму бажку - Каралю Малпаў. Калі астатнія "цывілізаваныя" кінуліся да дзяўчыны на дапамогу, мутант-малпа зьбег у джунглі, дзе правёў зь ёй нешта накшталт "мядовага месяца". Іх знаходзяць і, зьвязаўшы Кінг Конга ды памыўшы бляндынку, транспартуюць у Нью-Ёрк, дзе злыя і сквапныя капіталісты за грошы ладзяць монстаршоў. Але сапраўдны бог любіць волю і чалавечыя ахвяры: ён зьбягае з клеткі і пачынае разносіць дашчэнту каменныя джунглі...

**Што атрымалася:** Нешта ёсьць у тых дзіцячых папяровых жахах. І без кампутарных спэцэфэктаў Кінг Конг быў створаны з такой пяшчотай і дакладнасьцю, што піксэльныя дыназаўры "Парку Юрскага Пэрыяду" могуць толькі пазайздросьціць.

"КК" - фільм, які натхніў Пітэра Джэксана на стварэньне "Уладара": "Я ўсё жыцьцё марыў зьняць стужку ў стылі фэнтэзі менавіта таму, што ў дзяцінстве любіў першую вэрсію "Кінг Конга".



## ЭКСКАЛІБУР/EXCALIBUR

Рэжысэр: Джон Бурман. У ролях: Найджэл Тэры, Нікалас Клэй, Ніколь Уільямсан. Вялікабрытанія, 1981, 136 хв.

Экранізаваць клясыку позьняга Сярэднявечча - справа нялёгкая: адаптацыя рызыкуе ператварыцца ў банальнае спрашчэньне.

**Зьмест:** Распавядаецца пра жыцьцё караля Артура. Усе падзеі зьвязвае адна рэч - Экскалібур, меч караля. Фільм цалкам заснаваны на творы Томаса Мэлары: крок управа, крок улева лічыцца ўцёкамі, скок на месцы - правакацыяй.

**Што атрымалася:** Бурман зрабіў немагчымае - граматна навёў масты паміж сярэднявечным і сучасным сьветаўспрыманьнем. Паміж магіяй ды чараўніцтвам і рацыяналізмам нашых дзён. Хочацца верыць, што простая і адкрытая гульня актораў - задумка самога рэжысэра: часам героі выглядаюць настолькі наіўна, што падаецца, быццам на ролі набіралі зь першага курсу "кулька".

Ідэйны патас не перайшоў межы дазволенага, як у "Сэрцы Дракона", і не згубіўся ў крывавых танах (гл. "Конан"). Як досьвед экранізацыі тэксту фільм яўна пераўзыходзіць "Уладара Пярсьцёнкаў".



## КОНАН-БАРБАР/CONAN THE BARBARIAN

Рэжысэр: Джон Міліўс. Сцэнар: Джон Міліўс, Олівэр Стоўн. У ролях: Арнольд Шварцэнэгер, Джэймс Джоўнс, Сандал Бэргман. ЗША, 1982 год, 129 хв.

У пэрыяд толкіенізацыі ўсіх краінаў брутальны, поўны гвалту і сэксу раман "Конан" Робэрта Говарда зрабіўся альтэрнатывай вясёленькім хобітам і сьпешчаным эльфам. Тое самае зь фільмам.

**Зьмест:** Маленькім хлопчыкам Конан трапляе ў палон. Шмат год ён круціць нейкае кола і тым самым накручвае сабе афігенную мускулятуру. І аднойчы становіцца глядыятарам. Мастацтву заўсёды перамагаць яго навучылі лепшыя майстры Ўсходу і Захаду. У адзін цудоўны дзень яго адпускаюць на волю, і тут пачынаецца гісторыя помсты.

**Што атрымалася:** Нягледзячы на ўсё падабенства да бульварнага коміксу, фільм атрымаўся, што называецца, зь філязофскім падтэкстам. Ён так перапоўнены схаванымі і яўнымі адсылкамі да Ніцшэ, што некаторыя дагэтуль знаходзяць у ім праявы фашызму. Асобна пра саўндтрэк: ён ідэальна аздабляе і без таго дасканалы фільм. Усё ж раней музыцы ў фільмах надавалі болей увагі, таму яна гучала больш індывідуальна і належала толькі аднаму фільму. Гісторыя, якую "распавядае" саўндтрэк да "Конана", слухаецца як асобная сымфонія.



## СЭРЦА ДРАКОНА/DRAGONHEART

Рэжысэр: Роб Коэн. Сцэнар: Патрык Джонсан. У ролях: Дэніс Квэйд, Дэвід Зэўліс, Дына Мэер. ЗША, 1996 год, 103 хв.

Фэнтэзі-фільмы балянсуюць на мяжы сагі пра сэнс быцьця і банальнага казачнага коміксу. "Сэрца Дракона" відавочна схіліла ў бок апошняга: фільм яўна "перайграны".

**Зьмест:** Галоўны герой перад сваёй каранацыяй выпадкова працінае сабе сэрца драўлянай стрэмкай. Яго маман шантажуе старэнькага дракона, каб той падзяліўся (?!) зь яе сынам паловай свайго сэрца. Той пагаджаецца ў абмен на абяцаньне прынца быць добрым хлопчыкам і ня крыўдзіць малых, старых і жанчынаў. Але "хлопчык" не паслухаўся і зрабіўся тыранам. Тады стары дракон, дзяўчына-прапагандыстка і нейкі прыблудны рыцар вырашаюць зьдзейсьніць сацыялістычную рэвалюцыю: зямлю - сялянам, сэрца - дракону.

**Што атрымалася:** Занадта лібэральны фільм. Сьпічы прасякнутыя псэўдарыцарскім патасам, а "ідэйнасьць" ператвараецца ў маразм. Затое спэцэфэкты выкананыя якасна, відарысы падабраныя з густам, а да дракона з голасам Шона Конэры ўвогуле ніякіх прэтэнзіяў. Але гэта ўсяго толькі казка.



## 10-Е КАРАЛЕЎСТВА/THE 10TH KINGDOM

Рэжысэры: Дэвід Карсан, Гербэрт Уайз.У ролях: Рутгер Хаўэр, Скот Коэн, Кімбэрлі Ўільямс. ЗША, 2000 год, 417 хв.

Шматсэрыйная кніжка-фарбаванка для ўсёй сям'і (разам зь немаўлятамі і глухой бабкай) коштам у 45 мільёнаў даляраў.

**Зьмест:** Вірджынія сумленна працуе зь 9-й да 17-й афіцыянткай у нью-ёрскай забягалаўцы. Аднойчы, выпадкова выратаваўшы прынца ад крыважэрных троляў (а насамрэч маленькае сабачанятка ад гопнікаў), Вірджы трапляе ў паралельны сьвет, Краіну Дзевяці Каралеўстваў, дзе наш сьвет клічуць Каралеўствам Дзясятым. Сабака раскрывае сваю сапраўдную сутнасьць, а Вірджынія становіцца аб'ектам каханьня прывабнага Ваўкалака-людажэра... Сама яна вагаецца паміж Дабром і Злом і абірае, што дзіўна, апошняе.

**Што атрымалася:** Кінастужка, па краі набітая цытатамі, зь неблагім сюжэтам і ідэяй, моцна спрашчаецца наварочанымі спэцэфэктамі і творчай імпатэнцыяй рэжысэраў. Моцны акторскі склад, які, аднак, надзеяў не апраўдаў: найбольш цікавымі пэрсанажамі нечакана робяцца Ваўкалак і татачка Вірджыніі. Па амбіцыях, маштабнасьці і пабудове фільм набліжаецца да "Уладара", але "10-е Каралеўства" - прыклад таго, што можа атрымацца, калі хочуць як лепей.





THE SIMPSONS™

# ФАМІЛЬНЫ ПАРТРЭТ

## * СЫМПСАНЫ НА ФОНЕ *

НУ ЗДАРОВА, МЭН!

У лютым сусьветны мультпт "Сымпсаны"/"The Simpsons" адзначыў выхад у сьвет сваёй 300-ай сэрыі. "Ні ў салодкіх мроях, ні ў жахлівых снах я і ўявіць ня мог, што гэтую сямейку чакае такі трыюмф!" - шалёная папулярнасьць ужо трынаццаць год зьдзіўляе стваральніка анімацыйнага цуда Мэта Гроўнінга. І не яго аднаго. Ні абмежаваны слоўнікавы запас, ні імбэцыльны выгляд сямейкі не перашкодзілі ёй разжыцца ўласнай зоркай у адпаведнай алеі ў Галівудзе і стварыць прэцэдэнт інтэрнацыянальнага шаленства з элемэнтамі гістэрыі.

**Імя: ГОМЭР ДЖЭЙ СЫМПСАН/HOMER J. SIMPSON**
**Узрост:** 39 год
**Род заняткаў:** муж, бацька, інспэктар па тэхніцы бясьпекі на Спрынгфільдзкай атамнай электрастанцыі. Жыцьцё Гомэра праходзіць пад дэвізам "спрабуй усё, што можаш". Ён быў памагатым міжнароднага тэрарыста, які меў на мэце захапіць усходняе ўзьбярэжжа Амэрыкі, займаўся кантрабандай алькагольных напояў падчас сухога закону. Акрамя таго, паспрабаваў сябе як машыніст, сэк'юрыты, мэнэджэр кантры-сьпевака, цырульнік, злачынца, выкладчык курсу "шчасьлівы шлюб", бізнэсмэн. І заўсёды вяртаўся на пасаду інспэктара. Дарэчы, працу ён атрымаў пасьля трэцяй - нарэшце пасьпяховай - спробы здаць іспыт па спэцыяльнасьці.
З асабістых дасягненьняў: віртуоз ванітаваньня (сам працэс) і біцьця лындаў, прызнаны кароль энэргіі, фанат цяжкай атлетыкі і прызэр у спаборніцтве па выпадзеньні найбольшай колькасьці валасоў. Жывы талісман Спрынгфільдзкай бэйсбольнай каманды "Springfield Isotopes" ("Спрынгфільдзкія ізатопы") і ідэйны натхняльнік (з прэтэнзіяй на статус мэсіі) для прыдуманай ім самім рэлігіі піва. Быў у космасе, дзе выявілася яго схільнасьць да дывэрсіі. Жыцьцё экіпажу было пад пагрозай: падчас палёту Гомэр адкрыў пачак чыпсаў.
**Любіць:**
- малінавыя пончыкі ў двайной глазуры, чыпсы са сьвінінай, Красьці-бургеры, сьвіныя адбіўныя сваёй жонкі Мардж і арахіс, смажаны на мёдзе;
- брашуру "Такім чынам, вы вырашылі самастойна падключыцца да кабэльнага тэлебачаньня" - адзінае, што Гомэр здолеў прачытаць;
- ляжаць на канапе і, пацягваючы півасік "Duff", атрымліваць кайф ад тэлевізійнага выпраменьваньня. (Глядзіць "Bee Guy"/"Пчолка Гай" па гішпанскім канале.)

**Ня любіць:**
- пакутаваць на пячонку, страўнік, вантробы і сардэчныя прыступы з-за неадэкватных стасункаў з салодкім, тлустым і півам;
- старэйшага сына Барта, якога часта імкнецца задушыць;
- калі ён тлусты (а тлусты ён заўсёды) і калі ён лысы (цырульнік: "Гомэр Сымпсан? Вы не заходзілі сюды 20 гадоў!").

**Слоўнікавы запас:**
- Уууууу!
- Оооооо, арэшкі!
- Якога...?
- Барт!!!




**Імя: МАРДЖ СЫМПСАН/MARGE SIMPSON**
**Узрост:** 37 год
**Род заняткаў:** маці, хатняя гаспадыня з кансалідатарскімі замашкамі і адказнасьцю за сямейны бюджэт. У яе баявым мінулым - спаборніцтвы з шэрыфам, галоўная роля ў п'есе "Ах, трамвайчык!" (спрынгфільдзкая вэрсія "Трамвая Жаданьня") і нават праца на атамнай электрастанцыі, якую давялося кінуць з прычыны залішняй сымпатыі да Мардж з боку ўладальніка АЭС містэра Бэрнса. Мардж была настаўніцай-штрэйкбрэхерам, афіцыянткай і агентам па продажы нерухомасьці.
**З асабістых дасягненьняў:**
Настойлівасьць у навучаньні рэшты сямейства выкшталцоным манэрам. Два разы на дзень займаецца прадметам свайго асаблівага гонару - пафарбаванымі 56-ым нумарам блакітнымі валасамі, укладзенымі а-ля ракако. Падчас шпацыраў у шматлюдных месцах шавялюра выконвае ролю маяка і месца часовага захоўваньня для згубленых рэчаў, грошай, жывёлаў і нават уласнай дачкі. Калі б Мардж не сустрэла Гомэра Сымпсана да 35 год, у гісторыі Злучаных Штатаў магла б быць першая лэдзі-прэзыдэнт.
**Любіць:**
- Тома Джонса;
- бурчэць;
- спаць;
- праводзіць вольны час у коле сям'і, асабліва з Гомэрам Сымпсанам.

**Слоўнікавы запас:**
- Ох, Гомэр!
- Не забудзь свой сьняданак!
- Я так ганаруся табой!

**Імя: МЭГІ СЫМПСАН/MARGARET SIMPSON**
**Узрост:** 1 год
**Род заняткаў:** немаўля
З асабістых дасягненьняў: умее складаць з кубікаў формулу энэргіі па А.Эйнштэйну - $E=mc^2$. З-за вялікай любові ўжо пасьпела зрабіць замах на ўласнага бацьку з дапамогай алоўка і малатка. Узяла на сябе адказнасьць за тэракт у дзіцячым садку і спробу застрэліць містэра Бэрнса - уладальніка АЭС - за тое, што ён спакусіўся на яе ляндрынку на палачцы.
**Любіць:** соску.
**Ня любіць:** немаўлятаў з адным брывом.
**Слоўнікавы запас:** Та-та!!!!!





**Імя: БАРТ СЫМПСАН/BARTOLOMEU JO-JO SIMPSON**
(ён жа Эль Барта і Рутыгер)
**Узрост:** 10 год
**Род заняткаў:** вучыцца ў 4-ай клясе. Зразумела, горш за ўсіх. Анёл-дзіцёнак з парай-тройкай дурак у галаве.
**З асабістых дасягненьняў:** зьдзейсьніў акт вандалізму над помнікам заснавальніка гораду, адпілаваўшы яму галаву; прадаў душу за 5 баксаў (потым вярнуў); арганізаваў шматмільённую міграцыю жабак на аўстралійскім кантынэнце, тым самым парушыўшы экасыстэму; паказаў дупу ўсяму аўстралійскаму ўраду; замест выйгранага мільёна баксаў выбраў у якасьці прызу афрыканскага слана; у знакавы для сямейкі Сымпсанаў дзень 1-га красавіка ледзь не забіў свайго бацьку банкай з-пад піва.



**Любіць:**
- выключна хуліганак і прыгажунь;
- буяніць ды свавольнічаць;
- свайго сабаку - Маленькага Памочніка Санты;
- дамагацца таго, чаго хоча;
- bubble gum і скейтборд.

**Слоўнікавы запас:**
Гэй, карамба!
Крутняк!
Я нічога не рабіў!
Я - Барт Сымпсан! А ты што за хрэн з гары?
І думаць забудзься, мужык!

**Імя: ЛІЗА СЫМПСАН/LISA SIMPSON.**
Ад маці ёй дасталіся працалюбства, цьвярозы розум і спачуваньне, ад бацькі - прозьвішча.
**Узрост:** 8 год
**Род заняткаў**: "самы самотны дзіцёнак у клясе №2", геній, барацьбітка за свабоду і грамадзянскія правы, круглая выдатніца. Па TV глядзіць толькі праграму "Палітычныя аглядальнікі за круглым сталом" і экранізацыі ангельскіх раманаў, а таксама свой любімый мульт "Лапкі і царапкі".
**З асабістых дасягненьняў:** аўтарытэт для сваёй сям'і і ўсяго гораду, уладальніца тытулу "Маленькая Міс Спрынгфільд" і пераможца конкурсу па Чытацкім Аглядзе (у свае 8 чытае на ўсе 14). Ліза ўжо пасьпела абнародаваць кампрамэтуючыя "дасягненьні" вядомых палітыкаў і ініцыяваць сэрыю грамадзянскіх пратэстаў. Пляны на будучыню - атрымаць прапіску ў Белым Доме і на сабе выпрабаваць зручнасьць крэсла, якое зараз належыць Джорджу Дабл Ю Бушу.
**Любіць:**
- граць на саксафоне;
- хадзіць у школу;
- чытаць часопіс для хлопчыкаў "Non-Threatment Boys Magazine".

**Ня любіць:**
- парушэньне ўсё роўна чыіх правоў увогуле і несправядлівасьць у прыватнасьці;
- мяса - Ліза вэгетарыянка і хоча, каб усе пра гэта ведалі.

**Слоўнікавы запас:**
Хопіць, Барт!
Мам, ну скажы яму!
Ах, брат!

## І ШТО МЫ МАЕМ У ВЫНІКУ

Як вядома, амэрыканцы - нацыя хоць маладая, але з прынцыпамі. Прычым прынцыпамі пратэстанцкімі, найбольш важны зь якіх апісваецца саўковым "сям'я - ячэйка грамадзтва". Але закліканыя падтрымаць у амэрыканцах упэўненасьць у гэтай культурніцкай унівэрсаліі ружовашчокія карапузы на руках шчасьлівых амэрыканскіх бацькоў выглядалі непераканаўча і зацёрта ўжо ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя. У якасьці шокавай тэрапіі быў патрэбны неардынарны падыход для прапаганды сямейных каштоўнасьцяў сярод разбэшчаных шматлікімі - ад сэксуальнай да мэнтальнай - рэвалюцыямі амэрыканцаў. Доўга ня думалі: дыскрэдытацыя сям'і ёсьць яе прапагандай. Так на сьвет зьявілася сямейнае, дакладней, антысямейнае кіно зь неадэкватнымі галоўнымі героямі.
Сымпсаны - ідыёты-канфармісты, што пакутуюць на празьмерную актыўнасьць. Зь біялягічнага гледзішча сямейка яўна неданошаная. Мэт Гроўнінг - былы гіпі і рабочы на заводзе прамысловых адкідаў, які чорнай нянавісьцю ненавідзеў школу і лічаыў за самую вялікую яе карысьць тое, што там можна навучыцца чытаць, - прыдумаў Сымпсанаў за 15 хвілінаў у прыёмнай кампаніі FOX. Happy family прапісалася на TV як паўнавартасны 30-хвілінны мульт 14 студзеня 1990 году - гэты дзень усе сымпсанаманы і лічаць днём народзінаў сэрыялу.
Сямейка Сымпсанаў - нешта сярэдняе паміж, з аднаго боку, чорна-белым сэрыялам з чорным гумарам наркотных і вычварэнскіх 60-х пра прышыбленых замістыкаваных Адамсаў і, зь іншага, сумным комікам, улюбёнцам адукаваных мужчынаў за 40 і інтэлектуалак за 30 Вудзі Аленам. Адамсы з геройскім імпэтам змагаюцца з паўсядзённасьцю, забаўляючыся хто як можа - падрываюць цацачныя цягнікі, гуляюцца з дынамітам і вырошчваюць васьмінога, практыкуюцца ў запальваньні лямпачкі ротам ці спраўляюць хаўтуры па Марыі Антуанэце. Ален імкнецца пакінуць на рэчаіснасьці адбітак інтэлекту. Сымпсаны ж - гэта настойлівыя спробы на даступных прыкладах даказаць ідыятызм сьвету.



Па вялікім рахунку, Сымпсаны - чарговае прызнаньне ў каханьні да Злучаных Штатаў. У асабліва вычварэнскай форме.

## З ГЛЯБАЛЬНЫХ ДАСЯГНЕНЬНЯЎ

За 13 год у сэрыяле "засьвяцілася" больш за 200 знакамітых асобаў. Зараз на чарзе Джоан Роўлінг - аўтарка "Гары Потэра". Па задумцы стваральнікаў, пісьменьніца сустрэнецца каля кніжнай крамы з Бартам, які, як і яго маленькая сястрычка Ліза, проста шалее ад прыгодаў Гары. Зразумела, пра каго яны будуць размаўляць. Па чутках, Гроўнінг хоча, каб некаторыя эпізоды агучыў прэм'ер Вялікабрытаніі Тоні Блэр.



За ўвесь час свайго існаваньня тэлесэрыял атрымаў воз узнагародаў, найбольш значныя зь якіх - 15 прызоў Emmy (намінаваліся ажно 33 разы), Annie Awards (12 шт.), а таксама Peabody Award і па тры Genesis Awards, International Monitor Awards і Environmental Media Awards.
Кніга "Сымпсаны: самая поўная інфармацыя пра нашую любімую сям'ю" (1997) стала бэстсэлерам. У Амэрыцы, зразумела.
Гандлёвая марка "Сымпсан" па аб'ёме продажаў саступала толькі брэнду "Teenage Mutant Ninja Turtles" (чарапашкі-ніндзя).
Часопіс Time Magazine у 1999 годзе назваў "Сымпсанаў" лепшым TV-шоў XX стагодзьдзя. А па выніках апытаньня, праведзенага броварам "Бадынгтан", Барт трапіў у сьпіс самых выбітных асобаў XX стагодзьдзя. Ды так трапіў, што наперадзе засталіся толькі Элвіс і прынцэса Дыяна.



# Мэрчэндайзынг

happy shopping, baby!

тэкст: Алёна Шалаева

...Звычайная гісторыя. Заходжу ў супэрмаркет, і ў вочы адразу кідаецца вялізны плякат Coca-Cola Cherry. "Нічога такі хлопчык. Нічога, але ж г*но", - мільгае самаўпэўненае. Зьдзіўленая ад прамільгнулага, падыходжу да вітрыны зь пяльменямі. Самы блізкі пачак - "Ладога" ("І ладна, і не накладна". Ды яшчэ два кубікі Gallina Blanka на халяву! Супэр!), яго й бяру. Так: хлеб, ёгурт і што-небудзь папіць - думкі круцяцца вакол лядоўні Coca. Cola Cherry? А хаця б і яе. Каса вітае заўсёдным трохкілямэтровым хвастом чаргі, якая марудна прасоўваецца да стойкі з новым Dirol. Самае тое пад happy end. Як бачыш, гісторыя сапраўды банальная. Але калі ты пазнаў сябе хаця б на 50%, віншую: вы ахвяра мэрчэндайзынгу, сэр!

## тэорыя

Гандаль - самая старажытная прафэсія. Час не зьмяніў ні спосабы, ні сродкі, ні аб'екты. Адно што людзей, якія гандлююць, становіцца ўсё больш і больш, а магчымасьцяў для вытворцаў уплываць на розьнічны гандаль - усё менш і менш. Гандляры вырашаюць самі, як і што прадаваць. Паспрабуй у такой сытуацыі трымацца іміджу "вядучага"!

Але і спрабаваць няма чаго: пакліч на дапамогу брэндынг, псыхалёгію, сэміётыку, сацыялёгію, статыстыку і не забудзься на анёла-выратавальніка - мэрчэндайзэра. Паплюй празь плячо і заплюшчы вочы ад шчасьця: ён падтрымае ляяльныя адносіны з гандлярамі і будзе да апошняй крыві біцца з канкурэнтамі.

Час ня ўладны над сапраўднымі каштоўнасьцямі, і над мэрчэндайзынгам у прыватнасьці. Яшчэ ў старажытнасьці цаніліся людзі, якія маглі бездакорна выкласьці тавар, прафэсійна заклікаць купіць усялякую непатрэбшчыну і, што самае галоўнае, упіхнуць яе. А простыя як тры капейкі пакупнікі аж да пачатку XXI ст. думаюць, што самі выбіраюць тавар. Насамрэч гэта тавар "выбірае", бо яго вобраз ужо даўно замацаваны ў нашай сьвядомасьці ў якасьці нечага, без чаго і жыцьцё не жыцьцё.

Спэцыялісты кажуць, што толькі 20% пакупак - заплянаваныя. Усё астатняе - на ўзроўні несьвядомага: прыйшоў, убачыў і набыў. Вось на гэткай "македоншчыне" і разгортваюць поле дзейнасьці мэрчэндайзэры. Элемэнтарна: варта толькі правільна выкласьці тавары і выкарыстаць рэклямнае афармленьне. Ад таго, як разьмешчаныя шакалядкі на вітрыне - узгоркам ці "пластом", пад якім вуглом стаіць да пакупніка стойка з жуйкамі, залежаць канкрэтныя лічбы продажу. Менавіта мэрчэндайзэр забясьпечвае імідж кампаніі, адсочвае разьмяшчэньне і дапамагае крамам прадаваць свой тавар.

## купляйце (беларускае?)

Наведваньне добрай крамы - своеасаблівае казіно, дзе цябе "апрацоўваюць" як толькі можна, абы выклаў грошы. Па шчырасьці, апошнія самі па сабе вялікага значэньня ня маюць. Факт узьдзеяньня на пакупніка рэклямы і мэрчэндайзынгу грае значна большую ролю. Калі ўсе выбрыкі прафэсіяналаў спрацоўваюць, то далей і рабіць нічога ня трэба - высокія продажы забясьпечаныя.

А выкідаюць каленцы мэрчэндайзэры ў бок нас, пакупнікоў, якіх пасткі чакаюць на кожным кроку. Толькі ўяві сябе ў сваёй любімай краме. Заходзіш, бярэш кошык і рушыш налева. (Пастка №1: мэрчэндайзэр адсачыў ход плыні пакупнікоў: звычайна яна рухаецца справа-налева.) Падыходзіш да паліцы з макаронамі: перад вачыма Gallina Blanca - тысяча зь нечым BRB за 500 г. Унізе ёсьць яшчэ айчынныя "ражкі" шэра-бурага колеру па 800 руб. за кілаграм, але ўглядацца ў іх кошт і якасьць няма часу, дый нязручна - працягваеш руку за гішпанскім прадуктам. (Пастка №2: на гарызантальна разьмешчаных вітрынах унізе - тавар вялікіх памераў, больш танны і менш прывабны, зьверху - больш дарагі і якасны, які і трапляе на вочы.) Ідзеш далей і па ходзе закідваеш у кошык усё, што трапляе пад руку. (Пастка №3 - "правіла выцягнутай рукі" - на гэтым узроўні тавары разьбіраюцца хутчэй.) Нарэшце даходзіш да хлеба надзённага, які табе і быў патрэбны першапачаткова. (Пастка №4: гэты прадукт павінен быць разьмешчаны ў самым канцы залі, каб па дарозе да яго пакупнік пасьпеў набраць рознай непатрэбшчыны, што звычайна і адбываецца.) На шляху да касы натыкаесься то на стойку са снэкерамі, то на лядоўню з напіткамі і сокамі, то на кошык з чыпсамі. Падыходзіш да кожнай, штосьці бярэш, штосьці - не. А гэта і ёсьць пастка №5 - запавольваньне плыні пакупнікоў. Чым даўжэй знаходзісься ў краме, тым больш купіш. Паўгадзіны пагуляеш між прылаўкаў - ясна, што з пустымі рукамі дахаты ня пойдзеш. Пастка №6 - розныя спосабы прыцягненьня да канкрэтных месцаў. Звычайна гэта стэнды або дысплэі з новым таварам, які раскручваецца. І дарэмна ты лічыш, што на цябе гэта на падзейнічае і ты ня купіш новы гатунак гарбаты ці яшчэ чагосьці. Іншым разам, можа, у іншай краме, але абавязкова набудзеш.

Відаць, самымі безабароннымі ахвярамі ў крамах становяцца бацькі, якія выправіліся на шопінг з малымі дзецьмі - "дома не было на каго пакінуць". Каб мамы і таты былі больш прагматычныя і абачлівыя, дык ад граху падалей пакінулі б малое на суседку: адмыслова для "кветак жыцьця", там, куды ня трапіць вока дарослага, мэрчэндайзэр кладзе невялікія цацкі, салодкія дробязі і ўсё тое, што можа зацікавіць малых. У той час як бацькі напаўняюць кошыкі, малое набівае ўласныя кішэні. Толькі ля самай касы маці атрымае шок ад "пакупак" сына ці дачуні, але давядзецца плаціць. Не хапала яшчэ, каб любімае дзіця падняло на вушы ўсю краму!

Акрамя таго, на падсьвядомасьць пакупніка ўзьдзейнічаюць такія дробязі, як скрынкі для чэкаў, талеркі пад грошы, фірмовыя цэньнікі з нанесенай назвай кампаніі і г.д. Але і мы самі згодныя на такую "апрацоўку". Куды больш прыемна набываць якасны тавар і бачыць прыветны пэрсанал. Нават калі тавар больш каштуе, а крама знаходзіцца за сто кілямэтраў ад роднага дому - набывае моц самая вялікая пастка: "стварыць" прыхільніка, пастаяннага наведніка сваёй крамы. Гэта - вышэйшы пілятаж для мэрчэндайзэра.

## мэрчэндайзынг for you

Праглядаць анкеты-рэзюмэ на мэрчэндайзэраў - адно задавальненьне для студэнта. У нашай сьвядомасьці прафэсіянал мэрчэндайзынгу - гэта пэдантычны дзяцюк "пад гальштукам" і з кейсам. Насамрэч партрэт прафэсіі можна параўнаць з фоткай любога крэатыўнага і адказнага маладзёна ці маладухі. Патрабаваньні? Хутчэй пажаданьні: узрост 20-25, адукацыя - няскончаная вышэйшая ці ўжо в/а, зьнешнасьць - прыемная, больш за тое, - прэзэнтабэльная. Акрамя таго: энэргічны, дысцыплінаваны, стрэсаўстойлівы, з валоданьнем тэхнікай самапрэзэнтацыі і аргумэнтацыі. Атрымліваецца проста супэргерой, але ж ня будзем заніжаць уласную самаацэнку! Звычайна гэтай справай студэнты і займаюцца: дазваляе вольны час (мала хто з нас абцяжарвае сябе наведваньнем усіх лекцыяў), ды і спэцыялізацыя вялікага значэньня ня мае. Адно што наяўнасьць скончанай ці "ў працэсе" вышэйшай адукацыі.

Пры прыёме на працу працадаўца глядзіць перш-наперш на чалавека: той павінен быць гаваркім, каб у сваім гандлёвым пункце мог так расьпісаць прадукцыю, што пасьля ўсе гандляры самі пачнуць раіць яе пакупнікам. Такі мэрчэндайзэр можа зрабіць з крамай усё, што захоча. Прэтэндэнт мусіць мець схільнасьці да крэатуры і аналітычнага мысьленьня. Паколькі ён разьмяшчае прадукцыю сам, усё залежыць менавіта ад творчага падыходу і ўменьня бачыць сытуацыю. За добрых мэрчэндайзэраў трымаюцца, таму калі вышэйпералічанае - пра цябе, то ты маеш усе шанцы.

Узьнікае іншае пытаньне: дзе гэтаму вучаць? Па праўдзе кажучы, увесь сьвет настолькі "ў тэме", што выпускае мэрчэндайзэраў шматтысячнымі табунамі штогод. Напрыклад, у ЗША даўно існуюць International Academy of Merchandising and Design , The Fasion Institute of Design and Merchandising. Для параўнаньня, кошт навучаньня ў апошнім за акадэмічны год складае 6-7 тыс. даляраў. У суседняй Расеі мэрчэндайзынгу вучаць у Вышэйшай камэрцыйнай школе Міністэрства эканамічнага разьвіцьця і гандлю на факультэце разьвіцьця бізнэсу (300 даляраў за курс).

У нас прафэсійнае навучаньне мэрчэндайзэраў - справа рук кампаніі. Яна можа адправіць на стажыроўку за мяжу альбо на трэнінгі ў айчынную "Бізнэс-школу ІПМ". Трохдзённы трэнінг - 329 600 рублёў (!) - аплачвае кампанія. Ня будзем параўноўваць узровень беларускіх трэнінгаў і спэцадукацыю ў буржуйскіх унівэрах. У нашай сытуацыі галоўнае - твае задаткі і адказнасьць. У выніку - пастаянная праца, стабільны і незалежны ад эканамічных пэртурбацыяў заробак у 100-300 даляраў і пэрспэктывы росту: мэрчэндайзэр - гандлёвы агент - супэрвайзэр - маркетоляг - аналітык продажаў. Ну і, зразумела, нераадольная радасьць ад таго, што ты і ёсьць тым уладаром душаў і розумаў чалавечых. Хоць і ненадоўга - толькі на час чарговага шопінгу.

*Thanks to: кадравай агенцыі "Калекцыі адкрыцьцяў"*








# ПОЎНЫ ЎЛЁТ



**NEWS: беларуская агенцыя "Цэнтар культурных абменаў" зь лістапада мінулага году стала афіцыйным прадстаўніком STA TRAVEL на тэрыторыі нашай краіны і ажыцьцяўляе продаж студэнцкіх авіяквіткоў па спэцыяльных тарыфах. Праект пачынае рэалізоўвацца з канца сакавіка - пачатку красавіка.**

## 1. І што?

А нічога. Акрамя таго, што калі ты заўсёды гатовы дзеля experience пакінуць свой сьлед у пясках Сахары, а адбіткі пальцаў - на куфлі баварскага піва ў баварскай жа забягалаўцы, гэтыя навіны - для ЦЯБЕ.

STA TRAVEL - найбуйнейшая ў сьвеце агенцыя, што ня толькі не абцяжарвае жыцьцё вандроўным студэнтам і маладзёнам, а робіць яго нашмат лягчэйшым. Агенцыя мае 2.500 філіяў больш як у 75 краінах сьвету. Галоўная прапанова - адкінь асацыяцыі! - так званы "Блакітны квіток". Гэта - тваё поўнае права на самыя вясёлкавыя пэрспэктывы.

Квіток прызнаюць 110 авіякампаніяў сьвету, маршрутныя лініі якіх пакрываюць амаль усю зямную кулю. Што значыць: лётаць са зьніжкай можна куды заўгодна - ад вандровак у межах Эўропы да вольнага перасоўваньня па неабсяжных стэпах Азіі ды дасьледаваньня флёры й фаўны Кардыльераў з Андамі.

P.S. Спадзяемся, дадатковае страсеньне паветра на тэму "Што такое Цэнтар культурных абменаў?" ня мае рэзону.

## 2. Ну і што такое "Блакітны квіток"?

"Блакітны квіток" - гэта спэцыяльная прапанова ад STA TRAVEL для студэнтаў да 30 год (і ня толькі іх саміх, але і іх сем'яў) і маладзёнаў да 26 год бяз альма-матэрскага аўсвайса, а таксама для школьнікаў і асьпірантаў. Каб ашчасьлівіцца "блакітным цудам", папярэдне трэба атрымаць ганаровае званьне ўладальніка міжнароднай студэнцкай карткі ISIC або IYTC. Працэдура няшкодная для здароўя, праводзіцца непасрэдна на месцы і за чыста сымбалічную (каля $3) плату. Акрамя таго, мае шмат карысных наступстваў. Галоўнае зь іх - татальная эканомія тваіх тугрыкаў на радзіме і за яе межамі.

## 3. А мне якая з усяго гэтага карысьць?

Калі падумаць, прэзэнтаваная тваёй увазе паперка можа сыйсьці за каштоўную, бо:

- З "Блакітным квітком" толькі ад тваіх жаданьняў залежыць, калі вяртацца на радзіму або разьвітвацца зь ёю. Ты можаш ВЫКАРЫСТАЦЬ яго па прызначэньні ня тут і зараз, а на працягу ўсяго году!
- Хочаш спыніцца на некалькі дзён у транзытным горадзе і павандраваць у сваё задавальненьне, замест таго каб бавіць час у аэрапорце, чакаючы рэйсу nach Hause? Квіток STA TRAVEL прэзэнтуе табе гэтую магчымасьць!
- Зараз ня трэба хвалявацца, калі па справах цябе "занесла" ў Лас-Вэгас, а ў графе "Пункт вылету" значыцца невядома-які-далёкі Бостан. Проста патэлефануй у мясцовы офіс STA TRAVEL і ЗЬМЯНІ горад вылету. Калі хочаш, набывай квіток з прыбыцьцём у адзін горад, а адпраўленьнем з зусім іншага. Карацей, любы капрыз... натуральна, за твае грошы. Радуе адно - як бы ты ні вычвараўся ў сваіх жаданьнях, больш за $25 за паслугі зь цябе ня возьмуць - нават не прасі.
- У тваёго квітка ёсьць свая крэдытная вартасьць. Іншымі словамі, 500 баксаў, аддадзеныя за квіток, і ў Афрыцы імі ж застануцца. Квіток захоўвае за мяжой свой даляравы кошт на дзень набыцьця, таму без асаблівых хваляваньняў можаш зьмяняць траекторыю свайго палёту.
- І самая карысная прапанова. Калі ты дзе-небудзь у сэльве Амазонкі, прадзіраючыся праз кардон ліянаў, ад шчасьця зусім забыўся на квіток у кішэні і згубіў яго - засмучацца ня варта. Ты можаш АДНАВІЦЬ згублены правязны дакумэнт за 24 гадзіны. Прычым праводзіць такія маніпуляцыі можна ў любой краіне, дзе ёсьць прадстаўніцтва агенцыі STA TRAVEL.

**Прыемная навіна для маладых пэдагогаў-уладальнікаў ITIC (Міжнароднага выкладчыцкага пасьведчаньня). Яны таксама могуць карыстацца ўсімі прапанаванымі выгодамі, адчуваючы такім чынам сваю духоўную еднасьць са студэнтамі.**

Ты думаеш - гэта ўсё, што табе могуць прапанаваць? Нават не разьлічвай!

Родны "Менск-2" - ня твой ідэал? А што ты скажаш наконт "Шарамэцьева" або - вуаля! - "Арлі"? У цябе ёсьць магчымасьць выбіраць, зь якога аэрапорту адправіцца ў вандроўку.

Сыстэма браняваньня квіткоў on-line дапаможа знайсьці найбольш выгадны - у эстэтычным і матэрыяльным пляне - варыянт пералёту.

Але "забукаваць" for gratis (на халяву) можна ня толькі квіткі на самалёт. Дзякуючы IBS (International Booking System) у цябе ёсьць магчымасьць атрымаць увесь пакет паслугаў па браняваньні - ад нумару ў гатэлі, які ты можаш у on-line і пабачыць на ўласныя вочы, да трансфэру з аэрапорту і квіткоў на які-небудзь брадвэйскі мюзыкал. І зрабіць гэта НЕ выходзячы з офіса Цэнтру культурных абменаў.

**ВАНДРУЮЧЫ ПА КВІТКУ АД STA TRAVEL ТЫ ЭКАНОМІШ АД $100 І БОЛЬШ!**



тэкст: DS

**ЦЭНТАР КУЛЬТУРНЫХ АБМЕНАЎ:**
**220100, Беларусь, г. Менск,**
**вул. Сурганава, 47, офісы 7 і 8.**
**тэл.: (017) 202-00-81, 231-16-93,**
**232-50-28, 232-61-83**
**www.gcce.org**
**www.startravel.by**

прамая гарадзкая лінія 086